# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

ГАЛОЎНАЕ

Ў НУМАРЫ:



Журнал ЦК КП(б)Б

СНЕЖАНЬ 1935 г. 23

# Змест



**Выдавецтва ЦК КП(б)Б «Звязда».** **Тэхрэдактар А. Матусевіч.**

Менск, друк. «Звязда». Зд. у набор 16-XII-35 г. Падп. да др. 27-XII-35 г.
Тыраж 940 экз. 2 друк. арк. У арк. 75.000 зн. Уп. Галоўлітбела № 2970.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

№ 23 (47)

РЭДКАЛЕГІЯ: Н. Стэрнін, А. Джэлюк (адказны рэдактар), А. Цыпіна, С. Семашко, Л. Глезер.

СНЕЖАНЬ 1935 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Совецкая, 63, тэл. 22-412.

# ПРАМОВА тав. СТАЛІНА

## НА НАРАДЗЕ ПЕРАДАВЫХ КАМБАЙНЕРАЎ І КАМБАЙНЕРАК 1 СНЕЖНЯ 1935 г.



Таварышы! Дазвольце перш за ўсё вітаць вас у сувязі з тымі дасягненнямі, якіх вы дабіліся на фронце ўборкі ўраджаю. Дасягненні вашы немалыя. Калі ў сярэднім па ўсяму СССР выпрацоўка на камбайн паднялася ў нас удвая за адзін год, то гэта немалое дасягненне. Гэта дасягненне асабліва важна ва ўмовах нашай краіны, дзе тэхнічна падкаваных людзей усё яшчэ мала. Наша краіна заўсёды адрознівалася недахватам тэхнічна падкаваных кадраў, асабліва ў галіне земляробства. Тэхнічная падрыхтоўка кадраў у рамках цэлай краіны — гэта вельмі вялікая справа. Яна патрабуе дзесяцігоддзяў. І калі мы за параўнаўча кароткія тэрміны дабіліся таго, што з учарайшых сялянскіх сыноў і дачок выпрацавалі выдатных камбайнераў і камбайнерак, якія перакрываюць нормы капіталістычных краін, то гэта значыць, што ў нас справа вырошчвання тэхнічных кадраў ідзе наперад сямімільнымі крокамі. Так, таварышы, вашы поспехі значныя і сур'ёзныя, і вы ў поўнай меры заслугоўваеце таго, каб кіраўнікі партыі і ўрада віталі вас. **(Апладысменты).**

А цяпер дазвольце перайсці да сутнасці справы.

Ў нас часта гавораць, што мы ўжо вырашылі зернавую праблему. Гэта, зразумела, верна, калі мець на ўвазе цяперашні перажываемы намі перыяд. Мы збіраем у гэтым годзе больш пяці з палавай мільярдаў пудоў зярна. Гэтага ў поўнай меры хапае для таго, каб удосталь накарміць насельніцтва і адкласці яшчэ дастатковыя запасы, неабходныя для ўсякіх непрадбачаных выпадкаў. Гэта, зразумела, не дрэнна для сёнешняга дня. Але мы не можам абмяжоўвацца толькі сёнешнім днём. Мы павінны думаць і аб заўтрашнім дні, аб бліжэйшым будучым. А калі паглядзець на справу з пункту погляду заўтрашняга дня, то дасягнутыя рэзультаты нас не могуць задаволіць. Колькі спатрэбіцца нам зярна ў бліжэйшым будучым, скажам, гадоў праз тры-чатыры? Нам спатрэбіцца не менш сямі-васьмі мільярдаў пудоў зярна. Вось як абстаіць справа, таварышы. Значыць, мы павінны ўжо цяпер прыняць меры да таго, каб вытворчасць хлеба расла ў нас з года ў год і каб мы аказаліся к гэтаму тэрміну ў поўнай меры падрыхтаванымі да выканання гэтай важнейшай задачы. У стары час, да рэвалюцыі, наша краіна давала зярна каля чатырох-пяці мільярдаў пудоў у год. Хапала гэтага хлеба ці не—гэта іншае пытанне. Ва ўсякім выпадку ўсе лічылі, што хапала, бо кожны год вывозілі заграніцу каля 400—500 мільёнаў пудоў зярна. Так абстаяла справа ў мінулым. Іншая справа цяпер у нашых савецкіх умовах. Я ўжо гаварыў, што мы павінны ўжо цяпер рыхтавацца да таго, каб давесці ў бліжэйшым будучым, гадоў праз тры-чатыры, штогадную вытворчасць хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў. Розніца, як бачыце, немалая. То 4 або 5 мільярдаў пудоў, а то 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

Адкуль такая розніца? Чым вытлумачыць гэты каласальны рост патрэбнасцей ў зярне ў нашай краіне?

Тлумачыцца гэта тым, што наша краіна ўжо не тая, якою яна была ў стары, дарэвалюцыйны час.

Пачаць хоць-бы з таго, што ў нас за апошнія гады прамысловасць і гарады выраслі прынамсі ўдвая ў параўнанні са старым часам. Зараз у нас гарадоў, жыхароў у гарадах, прамысловасці і рабочых, занятых у прамысловасці, прынамсі ўдвая больш, чым у стары час. Што гэта значыць? Гэта значыць, што некалькі мільёнаў працаўнікоў узялі мы з сяла, перавялі ў гарады, зрабілі рабочымі і служачымі, і яны цяпер разам з астатнімі рабочымі рушаць наперад нашу прамысловасць. Гэта значыць, што калі некалькі мільёнаў працаўнікоў, звязаных раней з вёскай, выпрацоўвалі хлеб, то цяпер яны не толькі не выпрацоўваюць хлеба, а наадварот, самі маюць патрэбу ў тым, каб ім падвозілі хлеб з вёскі. А гарады ў нас будуць расці, і патрэбнасць у хлебе будзе павялічвацца.

Гэта першая прычына росту патрэбнасці ў зярне.

Далей. У стары час у нас тэхнічных культур было менш, чым цяпер. Мы выпрацоўваем цяпер бавоўны ўдвая, больш, чым у стары час. Што датычыць ільну, буракоў, і іншых тэхнічных культур, то мы іх выпрацоўваем непараўнаўча больш, чым у стары час. Што-ж з гэтага выцякае. А з гэтага выцякае тое, што людзі, занятыя вытворчасцю тэхнічных культур, не могуць у дастатковай ступені займацца вытворчасцю хлеба. Значыць, трэба мець вялікія запасы зярна для людзей, якія выпрацоўваюць тэхнічныя культуры, каб можна было ўсё больш і больш павялічваць вытворчасць тэхнічных культур, вытворчасць бавоўны, ільну, буракоў, сланечніку і т. д. А вытворчасць тэхнічных культур нам прыдзецца ўсё больш і больш павялічваць, калі мы хочам рушыць наперад нашу лёгкую прамысловасць і нашу харчовую прамысловасць.

Вось вам другая прычына росту пат рэбнасці ў зярне.

Далей. Я ўжо гаварыў, што ў стары час выпрацоўвалі ў нас 4—5 мільярдаў пудоў зярна ў год. Царскія міністры звычайна, гаварылі тады: «Самі не будзем даядаць, а хлеб вывозіць будзем». Што гэта за людзі, якія недаядалі? Зразумела, не царскія міністры. Недаядаўшыя людзі гэта — 20—30 мільёнаў вясковай беднаты, якая сапраўды недаядала і жыла ўпрогаладзь для таго, каб царскія міністры мелі магчымасць вывозіць хлеб заграніцу. Так было ў стары час. Цяпер у нас зусім іншы час. Савецкі ўрад не можа

дапусціць, каб насельніцтва недаядала. Вось ужо два-тры гады, як беднаты ў нас няма больш, беспрацоўя не стала, недаяданне знікла, і мы грунтоўна ўступілі на шлях заможнасці. Вы запытаеце—куды дзеліся 20—30 мільёнаў галоднай беднаты? Яны перайшлі ў калгасы, абасноваліся там і з поспехам будуюць сваё заможнае жыццё. А што гэта значыць? Гэта значыць, што нам патрэбуецца цяпер значна больш хлеба для пракармлення працоўных сялян, чым у стары час, бо ўчарайшыя беднякі, а цяпер калгаснікі, што абасноваліся ў калгасах, павінны мець дастаткова хлеба для таго, каб будаваць сваё заможнае жыццё. Вы ведаеце, што яны яго маюць і будуць мець яшчэ больш.

Гэта ўжо першая прычына росту патрэбнасці ў хлебе. ...

год чыстага прыросту насельніцтва атрымліваецца каля трох мільёнаў душ. Гэта значыць, што кожны год мы атрымліваем прырашчэння на цэлую Фінляндыю **(агульны смех)**. Ну, а гэта вядзе да таго, што прыходзіцца карміць усё больш і больш людзей.

Вось вам яшчэ адна прычына росту патрэбнасці ў хлебе.

Нарэшце, яшчэ адна прычына. Я гаварыў аб людзях і аб росце іх патрэбнасці ў хлебе. Але харчаванне людзей не абмяжоўваецца адным толькі хлебам. Ім патрэбна яшчэ мяса, тлушчы. Рост гарадоў, рост тэхнічных культур, агульны рост народанасельніцтва, заможнае жыццё, — усё гэта вядзе да росту патрэбнасці ў мясе, у тлушчах. Неабходна значыць, мець добра па-



**КАЛГАСНАЯ ВЁСКА АБМЯРКОЎВАЕ ПРАМОВУ ПРАВАДЫРА НА ЎСЕСАЮЗНАЙ НАРАДЗЕ ПЕРАДАВЫХ КАМБАЙНЕРАЎ І КАМБАЙНЕРАК. НА ЗДЫМКУ: чытка прамовы таварыша СТАЛІНА калгаснікамі калгаса імя 1-га мая, Маскоўскай вобл.**

Такая трэцяя прычына каласальнага росту патрэбнасці ў зярне ў нашай краіне.

Далей. У нас цяпер усе гавораць, што матэрыяльнае становішча працоўных значна палепшылася, што жыць стала лепш, весялей. Гэта, зразумела, верна. Але гэта вядзе да таго, што насельніцтва стала размнажацца значна хутчэй, чым у стары час. Смяротнасці стала менш, нараджэнняў больш, і чыстага прыросту атрымліваецца непараўнаўча больш. Гэта, зразумела, добра, і мы гэта вітаем. **(Вясёлае ажыўленне ў зале).** Зараз у нас кожны

стаўленую жывёлагадоўлю з вялікай колькасцю жывёлы, дробнай і буйнай, для таго, каб мець магчымасць задаволіць растучыя патрэбнасці насельніцтва ў мясных прадуктах. Усё гэта ясна. Але рост жывёлагадоўлі немыслімы без вялікіх запасаў зярна для жывёлы. Толькі зернавая гаспадарка, якая расце і разгортваецца, можа стварыць умовы, неабходныя для росту жывёлагадоўлі.

Вось вам яшчэ адна прычына каласальнага росту патрэбнасці ў зярне ў нашай краіне.

Такія, таварышы, прычыны, якія ў

корані змянілі твар нашай краіны і ставяць перад намі неадкладную задачу—давесці штогодную вытворчасць зярна ў бліжэйшым будучым да 7—8 мільярдаў пудоў.

Ці можам выканаць гэту задачу?

Так, можам. У гэтым не можа быць сумнення.

Што патрабуецца для таго, каб выканаць гэту задачу?

Для гэтага патрабуецца, перш за ўсё, каб пануючай формай гаспадаркі ў земляробстве была ў нас не дробная, а буйная гаспадарка. Чаму іменна буйная? Таму, што толькі буйная гаспадарка здольна асвоіць сучасную тэхніку, толькі буйная гаспадарка здольна скарыстаць у дастатковай ступені сучасныя апратэхнічныя веды, толькі буйная гаспадарка здольна прымяняць як след угнаенні. У капіталістычных краінах, дзе пануючай формай у земляробстве з'яўляецца аднаасобная дробная гаспадарка, буйныя гаспадаркі ствараюцца шляхам узбагачэння невялікай групы землеўладальнікаў і разарэння большасці сялян. Там звычайна землі разарыўшыхся сялян пераходзяць у рукі багатых землеўладальнікаў, а самі сяляне, каб не памерці з голаду, ідуць у наймыты да гэтых землеўладальнікаў. Мы лічым гэты шлях няправільным і руйнавальным. Ён для нас непрыймальны. Мы сталі таму на іншы шлях стварэння буйных гаспадарак у земляробстве. Мы сталі на шлях аб'яднання дробнасялянскіх гаспадарак у вялікія калектыўныя гаспадаркі, якія апрацоўваюць зямлю калектыўнай працай і якія карыстаюцца ўсім дабром і магчымасцямі буйнай гаспадаркі. Гэта ёсць шлях калгасаў. Ці з'яўляецца для нас цяпер калгасная форма буйнай гаспадаркі пануючай формай нашага земляробства? Так, з'яўляецца. У калгасах у нас ёсць цяпер каля 90 проц. усяго сялянства. Значыць, буйная гаспадарка ў земляробстве, калгасная гаспадарка, як пануючая форма, — у нас ужо ёсць у наяўнасці.

Для гэтага патрабуецца, па-другое, каб у калгасаў, у нашых буйных гаспадарак было дастаткова выгодных зямель. Ці ёсць такія землі ў нашых калгасаў? Так, ёсць. Вы ведаеце, што ўсе царскія, памешчыцкія і кулацкія землі перададзены ўжо калгасам. Вы ведаеце, што гэтыя землі ўжо замацаваны за калгасамі навечна. Значыць, у калгасаў маецца дастаткова выгодных зямель для таго, каб разгарнуць ва ўсю вытворчасць зярна.

Для гэтага патрабуецца, па-трэцяе, каб у калгасаў было дастаткова тэхнікі, трактараў, сельскагаспадарчых машын, камбайнаў. Самі разумееце, што на адной толькі ручной працы далёка не паедзеш. Значыць, патрэбна багатая тэхніка для таго, каб калгасы маглі разгарнуць вытворчасць зярна. Ці ёсць у калгасаў такая тэхніка? Так, ёсць. І чым далей, тым больш будзе ў іх гэтай тэхнікі.

Для гэтага патрабуецца, нарэшце, каб у калгасаў былі людзі, кадры, якія ўмеюць абыходзіцца з тэхнікай, асвоілі гэту тэхніку і навучыліся акуратна абыходзіцца з ёй. Ці ёсць у калгасаў такія людзі, такія кадры? Так, ёсць. Праўда, яшчэ мала, але ўсё-ж яны ёсць. Гэта нарада, дзе прысутнічаюць лепшыя камбайнеры і камбайнеркі і якая прадстаўляе толькі невялікую частку той арміі камбайнераў і камбайнерак, якія ёсць у калгасаў,—гэта нарада з'яўляецца доказам таго, што такія кадры ўжо нарадзіліся ў калгасах. Праўда, іх, гэтых кадраў, усё яшчэ мала, і ў гэтым, таварышы, галоўная наша загвоздка. Але няма падстаў сумнявацца ў тым, што колькасць гэтых кадраў будзе расці ў нас не гадамі і месяцамі, а днямі і гадзінамі.

Выходзіць, такім чынам, што мы маем усе ўмовы, неабходныя для таго, каб дабіцца ў бліжэйшым будучым штогоднай вытворчасці зярна ў размеры 7—8 мільярдаў пудоў.

Вось чаму я думаю, што неадкладная задача, аб якой я гаварыў вышэй, безумоўна, ажыццявіма.

Галоўнае цяпер у тым, каб належны на кадры, абучыць кадры, дапамагчы адстаючым асвоіць тэхніку, вырошчваць з дня ў дзень людзей, здольных асвоіць тэхніку і пагнаць яе наперад. У гэтым цяпер галоўнае, таварышы.

Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на камбайны і на камбайнераў. Вы ведаеце, што самая адказная справа ў зернавой гаспадарцы — уборка. Уборка —справа сезонная і яна не любіць чакаць. Сабраў своечасова — выйграў,

спазніўся ва ўборцы — прайграў. Значэнне камбайна заключаецца ў тым, што ён дапамагае сабраць ураджай своечасова. Гэта вельмі вялікая і сур'ёзная справа таварышы.

Але значэнне камбайна гэтым не абмяжоўваецца. Яго значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што ён пазбаўляе нас ад велізарных страт. Самі ведаеце, што ўборка пры дапамозе лабагрэйкі дае велізарныя страты зярна. Спачатку скасіць, потым сабраць у снапы, потым сабраць у сцірты, потым звазіць ураджай да малатарнь, — усё гэта страты і страты. Усе прызнаюць, што пры гэтай сістэме ўборкі мы трацім каля 20—25 проц. ураджаю. Вялікае значэнне камбайна заключаецца ў тым, што ён даводзіць гэтыя страты да нязначнага мінімуму. Знаўцы справы гавораць, што ўборка пры дапамозе лабагрэйкі пры іншых роўных умовах дае ўраджайнасць на гектар на 10 пудоў менш, чым уборка пры дапамозе камбайна. Калі ўзяць сто мільёнаў гектараў зернавых пасеваў, а іх у нас значна больш, як вядома, то страты пры ўборцы лабагрэйкамі складуць мільярд пудоў зярна. Спрабуйце цяпер арганізаваць уборку на гэтых ста мільёнах гектараў пры дапамозе камбайна, маючы на ўвазе, што камбайн працуе не дрэнна,—і вы атрымаеце выйгрыш на цэлы мільярд пудоў зярна. Лічба не малая, як бачыце.

Вось да чаго вялікае значэнне камбайна і людзей, якія працуюць на камбайне.

Вось чаму я думаю, што ўкараненне камбайна ў земляробства і вырошчванне шматлікіх кадраў камбайнераў і камбайнерак з'яўляецца першаступеннай задачай.

Вось чаму, заканчваючы прамову, я хачеў-бы выказаць пажаданне, каб лік нашых камбайнераў і камбайнерак рос не па днях, а па гадзінах, каб яны, абучаючыся тэхніцы камбайна і абучаючы гэтай справе сваіх таварышоў, сталі, нарэшце, сапраўднымі пераможцамі ў сельскай гаспадарцы нашай краіны.

**(Бурныя, доўгія апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, гучнае «ўра», воклічы з месц: «Няхай жыве любімы Сталін!»)**

Яшчэ два словы, таварышы. Мы тут у прэзідыуме цішком гутарылі і знайшлі, што трэба было-б прадставіць удзельнікаў данай нарады к вышэйшай узнагародзе, к ордэну—за добрую работу. Мы гэту справу думаем правесці, таварышы, у бліжэйшыя дні.

**(Бурныя, доўгія апладысменты, крыкі «ўра», воклічы: «Дзякуй таварышу Сталіну!»).**

# ПРАМОВА таварыша СТАЛІНА

## НА НАРАДЗЕ ПЕРАДАВЫХ КАЛГАСНІКАЎ І КАЛГАСНІЦ ТАДЖЫКІСТАНА І ТУРКМЕНІСТАНА 4 СНЕЖНЯ 1935 г.

Таварышы! Прэзідыум данай нарады даручыў мне заявіць вам аб двух рэчах:

Па-першае, аб тым, што ў прэзідыума ёсць намер прадставіць к вышэйшай узнагародзе — к ордэну ўсіх удзельнікаў і ўдзельніц данай нарады— за выдатную работу. **(Доўгія, бурныя апладысменты. Крыкі «ўра». Воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін». Доўгая авацыя і прывітальныя воклічы па адрасу кіраўнікоў партыі і ўрада).**

Па-другое, аб тым, што ў ўрада ёсць рашэнне даць па грузавіку кожнаму калгасу, прадстаўленаму тут, і паднесці кожнаму з удзельнікаў нарады па патэфону з пласцінкамі **(апладысменты)** і гадзіннікі: мужчынам — кішэневыя, а жанчынам—ручныя. **(Доўгія апладысменты).**

Мне гавораць адусюль, што я павінен сёе-тое сказаць.

**Воклічы:** Правільна! **(Апладысменты).**

Што тут сказаць? Усё сказана.

Відавочна, што справа з бавоўнай у вас пойдзе. Гэта відаць з усяго таго, што ў нас тут адбываецца. Калгасы ў вас растуць, жаданне працаваць ёсць, машыны дамо, угнаенне атрымаеце, дапамога ўсякая, якая толькі неабходна,— таварыш Молатаў, старшыня Соўнаркома, ужо заявіў вам аб гэтым,—будзе аказана. Значыць, справа з бавоўнай у вас пойдзе, і заможнае жыццё разгортваецца.

Але ёсць, таварышы, адна рэч,

больш каштоўная, чым бавоўна — гэта дружба народаў нашай краіны. Даная нарада, вашы прамовы, вашы справы гавораць аб тым, што дружба паміж народамі нашай вялікай краіны ўмацоўваецца. Гэта вельмі важна і знамянальна, таварышы. У стары час, калі ва ўладзе ў нашай краіне стаялі цар, капіталісты, памешчыкі, палітыка ўрада заключалася ў тым, каб зрабіць адзін народ — рускі народ — пануючым, а ўсе іншыя народы — падначаленымі, прыгнечанымі. Гэта была зверская, воўчая палітыка. У кастрычніку 1917 года калі ў нас



12-гадовая калгасніца калгаса імя Лахуці, Таджыкскай ССР т. Нахангова Мамлакат падносіць таварышу Сталіну падарунак—кнігу Сталіна аб Леніне на таджыкскай мове.

разгарнулася Вялікая пролетарская рэвалюцыя, калі мы скінулі цара, памешчыкаў і капіталістаў, вялікі Ленін, наш настаўнік, наш бацька і выхавацель сказаў, што не павінна быць з гэтага часу ні пануючых, ні падначаленых народаў, што народы павінны быць роўнымі і свабоднымі. Гэтым ён пахаваў у труну старую царскую, буржуазную палітыку і агаласіў новую, бальшэвіцкую палітыку — палітыку дружбы, палітыку брацтва паміж народамі нашай краіны.

З таго часу прайшло 18 гадоў. І вось мы маем ужо добрыя рэзультаты гэтай палітыкі. Даная нарада з'яўляецца яркім доказам таго, што былому недавер'ю паміж народамі СССР даўно пакладзен ужо канец, што недавер'е змянілася поўным узаемным давер'ем, што дружба паміж народамі СССР расце і мацнее. Гэта, таварышы, самае каштоўнае з таго, што дала нам бальшэвіцкая нацыянальная палітыка.

А дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе. Можаце не сумнявацца ў гэтым, таварышы. **(Бурная авацыя, усе прысутныя ўстаюць. воклічы: «Сталіну ўра»).**

# Указанні таварыша Сталіна—у масы

Калі на трыбуну першай усесаюзнай нарады рабочых і работніц—стаханаўцаў вышаў таварыш **Сталін,** уся краіна, затаіўшы дыханне, слухала яго мудрую прамову.

Прамова таварыша **Сталіна** адкрыла новую эпоху ў нашым развіцці, яна раскрыла багацейшую перспектыву на наш заўтрашні дзень, яна дала праграму барацьбы за высокую соцыялістычную прадукцыйнасць працы, якая-б забяспечыла такое багацце нашай краіны, якое азначае пераход ад соцыялізма да комунізма. Для таго, каб **«зрабіць наша совецкае грамадства найбольш заможным, неабходна мець такую прадукцыйнасць працы, якая перакрывае прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін. Без гэтага няма чаго і думаць аб багацці прадуктаў і ўсякага роду прадметаў спажывання».** Значэнне стаханаўскага руху ў тым і заключаецца, што ён адкрывае **«практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну... Яго значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма да комунізма». (СТАЛІН).**

У простых і ясных словах нашага вялікага Сталіна была велізарнейшая, сапраўды ленінска-сталінская мудрасць, блізкая і зразумелая кожнаму працоўнаму, мабілізуючая і запальваючая на новыя геройствы, новую самааддану барацьбу за вялікую справу нашай партыі.

Гіганцкія зрухі адбыліся за апошні час у нашай краіне. Больш чым на два тыдні да тэрміну транспарт, які адставаў доўгія гады, выканаў план пагрузкі. Харчовая прамысловасць датэрмінова выканала свой гадавы план. Уся мясцовая прамысловасць, якая адставала на працягу ўсіх апошніх гадоў, раней тэрміну выканала гадавы промфінплан. Совецкая Беларусь датэрмінова выканала план ільнозагатовак.

І гэта зусім натуральна. Соцыялістычны лад, буйнейшыя перамогі соцыялізма адкрываюць багацейшыя перспектывы, робяць жыццё радасным і шчаслівым для ўсіх працоўных. Толькі соцыялізм можа зрабіць працу справай гонару, справай адвагі і славы, толькі соцыялізм можа ператварыць чалавека—прыдатка да машыны ў капіталістычных умовах, у чалавека—гаспадара машыны, калі машына дапамагае чалавеку ў яго працы, павялічвае прадукцыйнасць, узбагачае яго жыццё.

Радаснай можа быць праца толькі пры соцыялістычнай сістэме, калі кожны, хто працуе, ведае, што ён працуе для ўсёй краіны, для сябе. Такая праца—радасная і шчаслівая—ёсць толькі ў нашай краіне, краіне соцыялізма.

Таварыш **Сталін** на нарадзе стаханаўцаў гаварыў: «**Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца. Адсюль высокія нормы выпрацоўкі, адсюль героі і гераіні працы».**

Радасная і шчаслівая праца з'явілася той глебай, на якой мог вырасці стаханаўскі рух, які **«арганічна звязан з новай тэхнікай. Без новай тэхнікі, без новых заводаў і фабрык, без новага абсталявання стаханаўскі рух не мог-бы ў нас зарадзіцца». (СТАЛІН).**

Гэты стаханаўскі рух, у які ўключыліся сотні і тысячы перадавых людзей, людзей, якія авалодалі тэхнікай, паказвае сапраўдныя цуды, апракідвае ўстарэлыя нормы, дае такія паказальнікі ў прадукцыйнасці працы, якіх не ведае і не можа ведаць ні адна капіталістычная краіна.

Апошні час багаты буйнымі падзеямі. Таварыш **Сталін** і іншыя кіраўнікі партыі і ўрада прынялі ўдарніц бурачных палёў на чале з Марыяй **Дземчэнка.** На першай усесаюзнай нарадзе людзей, авеяных славай, — рабочых і работніц-стаханаўцаў, з мудрай гістарычнай прамовай выступіў таварыш **Сталін.** На нарадзе лепшых камбайнераў і камбайнерак, на нарадзе ўдарнікаў-бавоўнаводаў таварыш **Сталін** даў зарадку для соцыялістычнай сельскай гаспадаркі на доўгія гады.

Усе гэтыя выступленні правадыра далі грандыёзную праграму далейшай

работы, невычарпальную зарадку для далейшай, яшчэ больш настойлівай барацьбы за багацце і росквіт нашай вялікай соцыялістычнай радзімы.

Гэтыя ўказанні выклікалі новы ўздым творчага энтузіязму ў самых шырокіх масах рабочых і калгаснікаў нашай краіны.

Гэтыя ўказанні ўсклалі шырокія абавязацельствы і на наш друк. Гэтыя абавязацельствы заключаюцца ў тым, каб лепш папулярызаваць задачы, пастаўленыя правадыром, давесці гэтыя задачы да самых шырокіх мас.

У нас выраслі выдатныя людзі. Гэтых людзей трэба паказаць у друку, каб іх прыклад, — а ён ў нас ёсць ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, — клікаў за сабой, вёў шырокія масы рабочых і калгаснікаў.

Для гэтага трэба перш за ўсё навучыцца прапагандаваць, растлумачваць перспектыву, складанейшыя рэчы растлумачваць з такой нагляднасцю, з такой прастатой, каб іх зразумеў кожны, каб ён хацеў дасягнуць такіх паказальнікаў, якіх дасягнулі стаханаўцы, і не толькі дасягнуць, але і перавысіць.

Лепшы прыклад такой прапаганды паказаў сам таварыш **Сталін** у сваёй гістарычнай прамове на нарадзе стаханаўцаў.

Прапагандаваць проста, на асобных канкрэтных прыкладах паказваць усю сутнасць пытання, трэба вучыцца ўсім нам, газетным працаўнікам, і вучыцца перш за ўсё у нашага вялікага правадыра таварыша **Сталіна.**

Першай задачай на бліжэйшы час таварыш **Сталін** паставіў: **«Дапамагчы стаханаўцам разгарнуць далей стаханаўскі рух і распаўсюдзіць яго ўшыр і ўглыб...».** Гэта задача адносіцца і да прамысловасці і да сельскай гаспадаркі. У сваёй прамове на нарадзе камбайнераў таварыш **Сталін** высунуў, як мэту барацьбы на бліжэйшы час, дабіцца больш высокага ўраджаю, вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў год.

Барацьбу за ўзняцце ўраджайнасці і верхавых, і бульбы, і ільну, барацьбу канкрэтную, паказваючы шляхі і метады ўздыму ўраджайнасці, трэба разгарнуць усім нашым раённым газетам.

Нам трэба дабіцца багацця прадуктаў, а для гэтага трэба вышэй узняць прадукцыйнасць працы, цэлымі фабрыкамі і заводамі ламаць устарэлыя нормы і грані. І тут непачаты край дзейнасці для нашага друку.

Ва ўсёй гэтай рабоце трэба выяўляць стаханаўцаў, весці за імі найшырэйшыя масы рабочых і калгаснікаў нашай краіны.

Другой задачай на бліжэйшы час таварыш Сталін паставіў **«абуздаць усе тыя элементы з гаспадарчых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія ўпарта чапляюцца за старое, не хочуць рухацца наперад і сістэматычна тармозяць разгортванне стаханаўскага руху» і «дапамагчы перабудавацца і ўзначаліць стаханаўскі рух тым гаспадарнікам, інжынерам і тэхнікам, якія не жадаюць перашкаджаць стаханаўскаму руху, якія спачуваюць гэтаму руху, але не здолелі яшчэ перабудавацца, не здолелі яшчэ ўзначаліць стаханаўскі рух».**

Гэта задача адказная і складаная. З усёй непрымірымасцю трэба выкрываць сабатажнікаў, дапамагаючы сумленным і адданым работнікам хутчэй зразумець свае памылкі, выправіць іх, узначаліць стаханаўскі рух.

Калі весела жывецца — работа спорыцца. Дапамагчы рабочым і калгаснікам весела, бадзёра, культурна арганізаваць сваё жыццё і быт, арганізаваць жыццё і быт па-новаму, па-соцыялістычнаму, папулярызаваць усе парасткі новага ў нашым квітнеючым соцыялістычным садзе — ганаровая задача нашага друку.

Выступленні таварыша **Сталіна** ўсклалі на наш друк сур'ёзную і адказную задачу. Друк—тая зброя, пры дапамозе якой партыя, таварыш **Сталін** штодзенна, штогадзінна гавораць з масамі на сваёй, патрэбнай партыі мове.

Гэту задачу баявой зброі партыі трэба апраўдаць і на дадзенай справе, нястомна прапагандаваць указанні таварыша **Сталіна,** падымаючы масы на новыя геройствы, на барацьбу за шчаслівае, радаснае жыццё.

# Каштоўны пачын

*** С. С. ПАХОМАЎ. ***

Стаханаўскі рух, які набыў велізарнейшы размах ва ўсёй краіне, знайшоў самы жывы водгук сярод рабочых заводаў і фабрык Бабруйска, сярод калгаснікаў раёна. На ўсіх прадпрыемствах, асабліва на лесакамбінаце, у цэхах, у брыгадах адчуваецца вялікі творчы ўздым.

Над разгортваннем стаханаўскага руху моцна працуе партыйная арганізацыя на чале з райкомам партыі. Немалую ролю ў развіцці стаханаўскага руху на прадпрыемствах Бабруйска і за апошні час у калгасах раёна адыграла і газета **«Комуніст».** Няма амаль ні аднаго нумара, асабліва за апошнія 2—3 тыдні, які-б у той ці іншай ступені не адлюстроўваў-бы тэмп росту майстроў высокай прадукцыйнасці працы.

## КОМУНІСТЫ— АРГАНІЗАТАРЫ СТАХАНАЎСКАГА РУХУ

Са старонак «Комуніста» лепшыя людзі-стаханаўцы Бабруйска расказвалі аб сабе, аб тым, якімі шляхамі яны дабіліся павышэння прадукцыйнасці працы і новых рэкордаў. Газета апаратыўна паказвала і паказвае работу **Рушко, Гладышава, Адзінцова, Міхалапа, Пазнякова, Гольштэйна, Герасімчука, Цэйтліна** і іншых лепшых стаханаўцаў.

«Комуніст» нядрэнна паказвае вядучую ролю комуністаў, як арганізатараў і застрэльшчыкаў стаханаўскага руху. У нумары за 26 кастрычніка ў артыкуле пад загалоўкам «Абавязак бальшэвіка» газета надзвычай цікава расказала аб **Казлове** — кандыдаце партыі, які старанна падрыхтаваўся да палітінфармацыі ў сваёй брыгадзе (фанерны завод імя Кірава). Ён добра прадумаў магчымасці і ўмовы работы брыгады і арганізаваў першую перамогу сваёй брыгады. Па яго прапанове абслугоўваць шліфавальны варштат сталі не ў тры, а ў дзве змены, і ён першым даў на гэтым варштаце 175 прац. нормы — замест 900 лістоў адшліфаваў 1580.

У газеце за 28 кастрычніка ў артыкуле «На чале комуністы» было расказана аб комуністах, якія пачалі рух за перакрыццё старых норм лесапілення. Начальнік лесацэха № 1 комуніст тав. **Вальфсон** і парторг цэха т. **Гладышаў** сталі на работу рамшчыкаў і ў першы-ж дзень перакрылі ўсебеларускі рэкорд у 130 кубаметраў, даўшы 145,3 кубаметра. Пасля гэтага першага поспеху яны рашылі рыхтавацца да таго, каб перакрыць рэкорд у 162 кубаметры, устаноўлены рамшчыкам **Мусінскім.**

Па іх прыкладу перакрыць рэкорд Мусінскага пачалі рыхтавацца і Рушко, і Міхалап, і Адзінцоў.

Так пачаўся рух, які прывёў да неаднаразовых перамог рамшчыка Рушко.

Так пачаўся рух, які прывёў да апошняй бліскучай перамогі тав. Гладышава. 14 снежня на першай змене тав. Гладышаў і старшы піластавў тав. **Прывідзенец** на рамах № 4—5 сістэмы «Болиндэр» за 420 мінут распілавалі 523, 205 кубаметра, тым самым перакрыўшы ўсе ўстаноўленыя да гэтага часу рэкорды ў лесапіленні.

## СУПРОЦЬ КОСНАСЦІ І БЮРАКРАТЫЗМА

Ужо ў другім перадавым артыкуле, прысвечаным стаханаўскаму руху, газета рашуча выступае супроць коснасці і бюракратызма, рэзка крытыкуе элементы бюракратызма, непаваротлівасці, адсталасці адміністрацыйна-гаспадарчага і тэхнічнага кіраўніцтва асобных фабрык і заводаў.

«Комуніст» піша:

**«Мы маем рад выпадкаў, калі кіраўніцтва і ў першую чаргу гаспадарчае, адстае ад руху стаханаўцаў, якім яна кіруе. У белцэху дрэваапрацоўчага камбіната з-за нераспарадчасці тэхнарука т. Альберціна, стаханаўцы тт. Пазнякоў, Окунь і інш. не забяспечваюцца сыравінай. У механічным цэху завода імя Сталіна (начальнік т. Грынберг) стаханаўцам прыходзіцца траціць многа часу на пошукі матэрыялаў і інструментаў».**

Газета ўскрыла, што ў арцелі «Сіла працы» лепшага закройшчыка Плюшына наўмысля пераводзілі з адной работы на другую з тым, каб ён не меў магчымасці перавысіць існуючыя нормы. А стаханаўцы Біран стварылі такія ўмовы, што ёй прыходзілася часта адрывацца ад работы, каб прыносіць сыравіну.

У спецыяльным артыкуле (14 лістапада) «Комуніст» ставіць пытанне так: **«стаханаўцы павінны ведаць рэзультаты сваёй работы».** Такі дан загаловак, такі сэнс артыкула.

> **«Нізавы рахунковы апарат, — піша «Комуніст», — працуе бескантрольна, толькі таму мог здарыцца выпадак недалічэнне 16 рабочым у тым ліку і стаханаўцам на заводзе «Чырвоны харчавік».**

Газета рэзка крытыкуе ўчотны апарат машынабудаўнічага завода імя Сталіна за тое, што весткі аб рэзультатах работы стаханаўцаў трымаюцца ім пад сакрэтам.

Не раз крытыкаваліся асобныя начальнікі цэхаў, спецыялісты і тэхнічныя кіраўнікі. Газета імкнулася напомніць асобным кіраўнікам аб іх абавязацельствах і нявыкананых абяцаннях. У нумары за 24 лістапада, гаворачы аб тым, што яшчэ месяц таму назад стаханаўцы лесакамбіната перакрылі норму на паскоранай падачы, газета піша:

> **«Тав. Караткевіч, тэхдырэктар камбіната, толькі 21 лістапада палічыў магчымым заняцца вывучэннем падач».**

І далей:

> **«Галоўны механік камбіната П'яных праз газету яшчэ 1 лістапада ўнёс прапанову распілаваць цвёрдыя пароды пiламі з мелкімі зуб'ямі. І за гэты час не мог ажыццявіць прапановы».**

Рашучую барацьбу вяла газета супроць апашлення стаханаўскага руху ў асобных арганізацыях і ўстановах.

У гандлёва-кааперацыйнай сетцы рашылі, што кожны ўдарнік з'яўляецца і стаханаўцам. У сувязі з гэтым яны арганізавалі вялікую вітрыну стаханаўцаў і выставілі яе ў гарадскім клубе. У вітрыне былі сіметрычна, «па чынах» размешчаны здымкі наступных асоб: Ваўчок—старшыня праўлення цэрабкопа, Фрыдкін—сакратар парткома ЦРК, Мельцер — старшыня райкома саюза каапераціі і дзяржгандлю. Затым у такім-жа парадку былі размешчаны кіраўнікі райспажыўсаюза: Старавойтаў (старшыня), Хесін (парторг), Коган (старшыня мясцкома), рэдактар газеты, бухгалтар і інш.

Газета неадкладна выкрыла гэта апашленне стаханаўскага руху і паказала прозвішчы гэтых людзей.

## ЦІКАВЫЯ ПАЧЫНАННІ

У сувязі з разгортваннем стаханаўскага руху газета пачала ставіць пытанні культурна-масавай і асветнай работы, пытанні паляпшэння якасці работы бібліятэк, клубаў, тэхгабінетаў і т. д. і лепшага абслугоўвання імі стаханаўцаў.

Спецыяльны перадавы артыкул прысвячае газета арганізацыі тэхнічнай вучобы. 17 лістапада быў змешчан артыкул інжынера **Фелэра** з метадгабінета наркамата лясной прамысловасці БССР пад загалоўкам «Стаханаўскі рух і другі тур тэхвучобы». У артыкуле «Аб рабоце тэхгабінетаў» (26 лістапада) газета ўскрывае існуючыя недахопы і паказвае ролю, значэнне і сутнасць работы тэхгабінетаў па арганізацыі тэхнічнай вучобы стаханаўцаў.

15 лістапада ў газеце змешчан артыкул «Бібліятэка і стаханавец» У гэтым артыкуле газета «Комуніст» зусім правільна паставіла пытанне аб рабоце бібліятэк.

> **«Мала хто з работнікаў нашых заводскіх і раённых бібліятэк можа пахваліцца, што яны добра знаёмы са знатнымі людзьмі нашага раёна—стаханаўцамі, і яшчэ менш знойдзецца такіх, хто мог-бы заявіць, што заняўся індывідуальным абслугоўваннем стаханаўца...»**

І газета прапануе ўстанавіць асобны абанемент для атрымання кнігі ў першую чаргу. Бібліятэкарам бываць у цэхах, у клубах, зацікаўліваць людзей і інш.

3 снежня быў змешчан артыкул «Клуб камбіната не ўзначальвае культурнага росту рабочых». Газета рэзка крытыкуе работу клуба. Дырэкцыя клуба камбіната пакуль усяго толькі абмежавалася выдзяленнем 25 лепшых месц для стаханаўцаў.

А самадзейная, гурткавая, асветная работа ўсё яшчэ на нізкім узроўні, нецікавая і непрывабная.

«Комуніст» пачаў арганізоўваць і ўрачоў. Урач дрэваапрацоўчага камбіната тав. Кантаровіч выступіў з артыкулам на старонках «Комуніста». Ён узяў на сябе рад абавязацельстваў і заклікаў урачоў да паляпшэння медабслугоўвання стаханаўцаў на прадпрыемствах і дома. Ён прапанаваў узяць пад асобы кантроль санітарна-тэхнічнае становішча варштатаў і рабочае месца стаханаўцаў.

## ЗА 1.700 ПУДОЎ БУЛЬБЫ З ГЕКТАРА

У першы час газета зусім замоўчвала і не арганізоўвала стаханаўскі рух у вёсцы, у калгасах. Зрэдку паяўляліся невялікія заметкі аб лепшых ільнотрапальшчыцах раёна.

У другой палове лістапада лепшы брыгадзір гароднік Голуб Якім з калгаса «Чырвоны партызан № 1», Базаўнікоўскага сельсовета, у пісьме таварышу **Гікало** піша аб тым, што ён абавязваецца замест сабраных у гэтым годзе 700 пудоў бульбы з гектара сабраць у будучым годзе не менш 1.700 пудоў.

Пісьмо змешчана, газета арганізоўвае водгукі, пераносіць вопыт стаханаўскага метаду работы на вёску.

Зараз ужо ёсць асобныя брыгадзіры з іншых калгасаў, якія абавязваюцца давесці ўраджай бульбы ў 1936 г. да 2 тысяч пудоў.

Нядаўна ў «Комунісце» (2 снежня) быў спецыяльны перадавы «За 1.700 пудоў з гектара».

**«Бульба ў Совецкай Беларусі,—піша газета,—з'яўляецца адной з галоўнейшых галін паляводства, як харчавая, кармавая і тэхнічная культура. Барацьба за рэкордны ўраджай бульбы—гэта барацьба за дастатковыя сотні тысяч тон бульбы для броварнай і крухмальнай прамысловасці, за сотні, тысячы тон дадатковага, якаснага норму для жывёлагадоўлі, гэта барацьба за заможнасць калгасаў і калгаснікаў».**

І далей газета расказвае, што трэба зрабіць, каб дабіцца такога ўраджаю бульбы.

## АСОБНЫЯ НЕДАХОПЫ

Рад поспехаў мае «Комуніст» у справе арганізацыі і разгортвання стаханаўскага руху. Але тут ёсць і сур'ёзныя недахопы.

Аб стаханаўцу, аб яго асабістым жыцці, бадай газета амаль не заікнулася. Значную частку матэрыялаў аб стаханаўцах піша адзін і той-жа чалавек—загадчык вытворчага аддзела. У стылі яго пераважае аднатоннасць, сухасць, лічбы, паўтарэнні слова ў слова ўжо збітых выразаў.

Вельмі мала нарысаў, зарысовак, апавяданняў аб асобных людзях, брыгадах і цэхах.

Газеце патрэбна многа глыбей і грунтоўней ставіць пытанні клубнай, бібліятэчнай, агульнаасветнай работы і тэхнічнага навучання.

Трэба лепш паставіць работу з рабкорамі. Вялікім недахопам у рабоце газеты «Комуніст» з'яўляецца тое, што да гэтага часу не было зусім праведзена ні аднаго злёту, ні аднаго схода рабкораў — агульнагарадскога, заводскіх і т. д.

Газета ні на адным прыкладзе не паказала недахопы работы паасобных партыйных арганізацый і асабліва мясцовых заводскіх профарганізацый. Справа, вядома, не ў тым, каб пакрытыкаваць фабзаўкомы профсаюзаў і на гэтым закончыць. Справа ў тым, каб на адным заўкоме ці фабкоме паказаць, чым фабкому трэба займацца, яго ролю і месца ў арганізацыі і разгортванні стаханаўскага руху.

---

# НА НАРАДЗЕ РЭДАКТАРОЎ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКІХ ГАЗЕТ

**У мінулым нумары нашага журнала мы расказвалі аб рабоце першага ў БССР габінета друку (завод імя Варашылава, Менск). 4 снежня рэдактары фабрычна-заводскіх газет Менска сабраліся ў гэтым габінеце. Рэдактар газеты «Варашылавец» т. ФЕЛЛЕР расказаў аб рабоце габінета, формах і метадах масавай работы з рабселькорамі. Пасля жывога абмену ўражаннямі быў зроблен вусны агляд газеты завода імя Кірава «КІРАВЕЦ» па пытанню стаханаўскага руху. Дакладчык т. РАСКІНА дала наступную ацэнку рабоце газеты:**

— Фабрычна-заводская газета павінна шырока распаўсюджваць вопыт работы стаханаўцаў з тым, каб ператварыць гэты вопыт у рух усіх рабочых свайго завода, бязлітасна змагацца з усімі тормазамі стаханаўскага руху.

Праграма дзеянняў, якую таварыш **Сталін** даў у сваёй гістарычнай прамове на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў усім партыйным арганізацыям, з'яўляецца праграмай дзеянняў і для нашага друку.

Газета, для выканання сваёй ролі як прапагандыста, агітатара і арганізатара ў стаханаўскім руху, павінна прыцягваць да ўдзелу ў сваёй рабоце саміх стаханаўцаў.

Шматтыражная газета **«Кіравец»** паказала ў гэтай галіне добры прыклад. Рабочы тав. **Шульман** — адзін з лепшых стаханаўцаў на заводзе. Тав. Асаёнак параіўся з ім, як лепш паказаць у газеце вопыт яго работы па чыставой абточцы. Тав. Шульман прапанаваў зрабіць здымак яго рабочага дня. Гэта ідэя была рэдакцыяй падхоплена і 30 лістапада газета змяшчае хранаметрычны здымак рабочага дня тав. Шульмана. Гэты артыкул дае многа каштоўнага ў перанясенні вопыту работы лепшага стаханаўца.

Прагляджаючы камплект газеты «Кіравец», можна ўпэўніцца ў тым, што асноўны рабкор газеты — гэта стаханавец, таму і перадача метадаў работы стаханаўцаў у газеце пастаўлена добра, а гэта адыграла немалую ролю ў росце стаханаўскага руху на заводзе. У гэтым вялікая заслуга газеты.

«Кіравец» вядзе барацьбу за высокую якасць прадукцыі.

Людзі, не ўладаўшыя тэхнікай, у пагоні за большым заработкам, пачалі даваць брак. Так, рабочы Паскрэбка ў кавальска-зборачным цэху перакрыў нормы выпрацоўкі, але ён дае дрэнную якасць. Пра яго газета піша:

**«Паскрэбка безумоўна не стаханавец, а бракароб, і паказвае прыклад, як не трэба працаваць».**

Артыкул канчаецца словамі:

**... «Гэты факт гаворыць аб тым, што ў нашым цэху стаханаўскі рух не звязалі з перанясеннем вопыту менжынцаў, з выдатніцтвам».**

Газета паставіла пытанне зусім правільна, бо барацьба за высокую прадукцыйнасць працы неадрыўна звязана з барацьбой за якасць.

Барацьба за якасць стаіць у цэнтры ўвагі ў агульным комплексе работы па-стаханаўску. Таму сказана правільна, «не стаханавец, а бракароб» той, які гоніцца толькі за колькаснымі паказальнікамі, выпускаючы неадлучнае — высокую якасць.

Разгортванне стаханаўскага руху ўшыр і ўглыб неадрыўна ад задачы знішчэння перашкод на шляху развіцця стаханаўскага руху. Задача газеты заключаецца ў выяўленні гэтых перашкод, у выкрыцці людзей, вінаватых у тармажэнні стаханаўскага руху, у арганізацыі рабочых на знішчэнне гэтых перашкод.

Газета «Кіравец» у нумары ад 17 лістапада змяшчае артыкул пад загалоў-

кам: «Стаханаўскі метад патрабуе работы па-новаму». У гэтым артыкуле напісана:

**«За апошні час мы маем яўнае паслабленне стаханаўскага руху на заводзе ў асаблівасці ў слясарным цэху».**

У артыкуле ўскрыт рад фактаў, але канкрэтных людзей, што тармозяць разгортванне стаханаўскага руху няма.

... «Многія кіраўнікі цэхаў і брыгад...» Хто-ж гэтыя многія? Газета не называе іх прозвішчаў.

А трэба называць. Трэба выяўляць і папярэджваць гэтых людзей, а калі папярэджанні не дапамагаюць, тады не шкадуючы, выкрываць і біць.

Наш друк—вострая зброя партыі. Гэта значыць, што нашы газеты павінны знаходзіць новыя метады работы, работы са стаханаўцамі, арганізоўваць стаханаўскі рух так, як гэтага патрабуе наша партыя.

**Пасля агляду з расказам аб вопыце прамысловага аддзела газеты «Рабочий» выступіла тав. ПАШУЧЭНКА. Яна расказвае:**

— З некаторым спазненнем уключылася газета **«Рабочий»** у стаханаўскі рух. У той час, як **«ПРАВДА»** пачала змяшчаць матэрыял аб гэтым вялікім народным руху яшчэ ў верасні, наша газета першы матэрыял надрукавала ў кастрычніку.

Пачалі мы з паказу жывых людзей—майстроў высокай прадукцыйнасці працы і іх вопыту—мудрага па сваёй прастаце, здзіўляючага па эфектыўнасці. Адшукаць гэтых людзей на прадпрыемствах у першыя дні было нялёгка. Кіраўнікі прадпрыемстваў не ведалі сваіх лепшых людзей, панаваў настрой, што стаханаўскія метады работы прымянімы ў Данбасе, цяжкай прамысловасці, але ніяк не ў лёгкай. Трэба было перамагчы гэту коснасць і кансерватыўнасць. Мы знайшлі і паказалі лепшых людзей. (**Мільбуер**—на заводзе імя Молатава, **Сурдова** Наста — швейная фабрыка імя Крупскай, **Харнас** — завод імя Варашылава).

Паказваючы стаханаўцаў у розных галінах прамысловасці, мы ўзнялі ініцыятараў гэтага вялікага руху на прадпрыемствах БССР і трымаем іх увесь час на віду. Прывяду прыклад.

11 кастрычніка газета друкуе матэрыял аб усебеларускім рэкордзе рабочага абутковай фабрыкі імя Кагановіча т. **Скабло.** 12 кастрычніка мы арганізуем і друкуем пісьмо Скабло, у якім ён падрабязна расказвае аб вопыце сваёй работы. У гэтым-жа нумары ідзе перадавы артыкул: «Метады Скабло і Розенберга ўсім прадпрыемствам БССР».

Затым мы ідзем па слядах гэтых матэрыялаў, высвятляем, што кіраўніцтва фабрыкі, захапіўшыся паказной старанной справы, не забяспечвае бесперабойную работу сваіх стаханаўцаў і трывожна сігналізуем: «Прастоі з'ядаюць рабочы час стаханаўцаў». У гэтым-жа нумары надрукавана арганізаванае намі пісьмо рабочых гомельскай фабрыкі «Труд», якія абавязваюцца, працуючы па метаду Скабло, паказаць узоры высокай прадукцыйнасці працы.

Праз некаторы час у газеце надрукавана пісьмо тав. Скабло: «Дрэнна дапамагаюць стаханаўцам». У гэтым пісьме тав. Скабло абвінавачвае адміністрацыю фабрыкі, якая сваёй непаваротлівасцю і коснасцю перашкаджае рабоце стаханаўцаў. Гэта пісьмо зрабіла на фабрыцы вялікае ўражанне, амаль усе недахопы, паказаныя ў пісьме, былі знішчаны. Але стаханаўскі рух штодзенна высоўвае новыя патрабаванні, адміністрацыйна-тэхнічны персанал адстае ад іх. І нядаўна мы зноў змясцілі пісьмо Скабло і майстра цэха Фітэрсона аб новых непаладках. Так на прыкладзе работы аднаго стаханаўца мы паслядоўна паказваем разгортванне руху на ўсім прадпрыемстве.

На асобных прадпрыемствах кансерватыўныя, а часта і чужыя сацыялістычнаму будаўніцтву, людзі імкнуліся сарваць разгортванне магутнага руху. Газета «Рабочий» ускрыла сабатаж на БелДРЭСе, гомельскім заводзе «Пролетарый», барысаўскім шклозаводзе. Да гэтага часу мы слаба крытыкавалі прафарганізацыі, якія цягнуцца ў абозе вялікага руху, не змаглі знаходзіць і паказваць хоць-бы крупіцы станоўчага вопыту ў рабоце прафсаюзаў.

Артыкул у «Правде» — «Меней пустазвонства і траскатні, пабольш прак-

тычных спраў» сур'ёзна прымусіў нас занянца пытаннямі барацьбы са спробамі апашлення стаханаўскага руху. Мы выступілі з радам матэрыялаў аб тым, што на многіх прадпрыемствах балбатуны і бяздзельнікі імкнуліся ўтапіць ініцыятыву і энтузіязм мас у шуміхе і балбатні.

На аснове прамовы таварыша Сталіна на Ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, прамысловы аддзел газеты «Рабочий» намеціў план работы на снежань. Якія пытанні мы ўключылі ў свой план?

Мы змяшчаем пісьмы стаханаўцаў на тэму: **«Што нам перашкаджае ў рабоце».** Ад нас патрабуецца—ісці па слядах гэтых пісем і дабівацца, каб кожны сігнал стаханаўца быў дзейсным і атрымаў адпаведнае рэагаванне.

Спецыяльна займаемся тэмай: **«Стаханаўская палучка».** Тут трэба будзе паказаць не толькі рост зарплаты, але і змяненне ў бюджэце стаханаўца. З гэтым трэба ўвязаць пытанні—як у сувязі са стаханаўскім рухам на прадпрыемствах перабудоўваецца зарплата інжынерна-тэхнічных работнікаў, падсобных рабочых, абслугоўваючых стаханаўцаў. Трэба будзе дасканала праверыць правільнасць выплаты зарплаты стаханаўцам.

Асвятленне ролі прафарганізацыі ў разгортванні стаханаўскага руху мы будзем весці пад кутом погляду наколькі прафсаюзы спраўляюцца са сваімі задачамі абслугоўвання культурна-бытавых патрэбнасцей стаханаўцаў.

Да гэтага часу мы недастаткова паказвалі ролю інжынераў і тэхнікаў у стаханаўскім руху. Між іншым, гэта важнейшая задача друку.

Для пачатку мы праводзім анкету сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў **«Як мы дапамагаем стаханаўцам».**

Не толькі прапагандыстам і агітатарам, але і арганізатарам павінна быць газета. Стаханаўскі рух трэба ўкараніць ва ўсе галіны народнай гаспадаркі. У вас, у Беларусі, вельмі адстае ў гэтых адносінах **шкляная** прамысловасць. Наш абавязак — не толькі пісаць аб гэтым, але практычна дапамагчы арганізаваць гэту справу, каб вопыт перанесці на астатнія заводы. Для гэтай мэты мы намячаем камандыраваць работніка на асіпавіцкі шклозавод «Пролетарый».

Аддзел **«Нашы стаханаўцы»** заняў пастаяннае месца ў нашай газеце.

І, нарэшце, усе мы павінны памятаць мудрыя словы правадыра тав. **Сталіна:** «Жыць стала лепш, жыць стала весялей». Трэба, каб гэта вяселле, бадзёрасць і радасць адбіваліся на старонках нашай газеты, каб у іх пераліваліся ўсімі колерамі пышнае, прыгожае, шматграннае жыццё нашай краіны.

**Разгарнуліся спрэчкі. Першым выступіў рэдактар шматтыражкі віцебскага завода «Чырвоны металіст» тав. ПІМШТЭЙН, які адзначыў:**

— Газета «Рабочий» на сваіх старонках больш увагі аддае мясцовым прадпрыемствам, а вопыт прадпрыемстваў другіх гарадоў паказваецца вельмі мала.

Я прапаную арганізаваць спаборніцтва паміж стаханаўцамі. Чаму, напрыклад, стаханаўцы менскіх прадпрыемстваў не могуць уключыцца ў спаборніцтва з стаханаўцамі брацкіх рэспублік. Гэта трэба арганізаваць і сістэматычна паказваць на старонках газеты. Мала ўвагі наш друк звярачае на прастоі і па якой віне яны бываюць. З прастоямі трэба змагацца.

**Слова ўзяў рэдактар шматтыражкі завода «Большэвік» т. МІНКІН:**

— Мая газета яшчэ не жыве стаханаўскім рухам, а наглядна прыкладу, як арганізаваць сваю работу, я не маю. Мы, рэдактары шматтыражак, яшчэ не паказваем стаханаўцаў такімі, якімі яны ёсць. Паказаць стаханаўцаў—гэта значыць паказаць, як яны жывуць, іх быт, культуру і т. д. Гэтага пакуль што

няма. Не арганізавалі мы і сустрэч стаханаўцаў з другімі рабочымі для перадачы вопыту.

— У нас на заводзе ідзе гонка за колькасцю стаханаўцаў і мала цікавяцца тым, хто сапраўдны стаханавец і што новага ён унёс у сваю работу. Устанавілі так, што кожны, хто дае прадукцыі больш **135** проц., той стаханавец.

**Тав. ФЕЛЕР — рэдактар газеты завода імя Варашылава ў сваім выступленні звярнуў увагу на работу з рэдактарамі. Ён гаворыць:**

— План газеты «Рабочий» распрацаван добра, але неабходна, каб па гэтаму плану і па яго выкананню рэдакцыя часцей гутарыла з рэдактарамі шматтыражак.

Сёнешнюю нараду трэба вітаць таму, што яна практычна падышла да вучобы рэдактароў. Такія нарады трэба практыкаваць часцей.

**Далей у спрэчках выступіў рэдактар газеты фабрыкі «Комунарка» тав. ПЕТРУШЫН, які расказаў аб труднасцях сваёй работы. Нарада скончылася культурным паходам у тэатр.**



**Самыя маладыя трапальшчыцы-стаханаўкі, якія прыбылі ў Менск для сустрэчы з кіраўнікамі КП(б)Б і ўрада БССР. НА ЗДЫМКУ (злева направа): Ксеня Пецкалёва, Фядора Шрабянок, Антаніна Кірмашук і Вара Шрабянок.**

# Прачытаю у поласах

Праглядаеш часамі **чырвонаслабодскую** раённую газету **«Калгаснік»** і сумна робіцца ад асобных яе нумароў. Вельмі ўжо дрэнна тэхнічна афармлены і слепа надрукаваны некаторыя нумары гэтай газеты. Вельмі дрэнна падбіраюцца шрыфты як для тэксту, так і для загалоўкаў.

Тое-ж самае можна сказаць і ў адносінах расстаноўкі самога матэрыялу на

Вазьміце, напрыклад, рэдакцыю. Два маленькія пакойчыкі, у якіх павярнуцца нельга. Людзі, якія прыходзяць у рэдакцыю, вымушаны ўвесь час стаяць, бо сесці няма дзе.

Работнікаў у рэдакцыі мала. Значная частка дня ў іх ідзе на прыём наведвальнікаў, а зімовы дзень кароткі. Працаваць ім прыходзіцца і раніцой, і ўвечары. Асвятленне-ж у рэдакцыі і друкар-



**МАШЫНІСТКА:** — Крыху цішэй, таварыш рэдактар, а то я не паспяваю перадрукоўваць...

**ІЛЛІНЧЫК:** — Не важна... Гані хутчэй. А калі ўкрадзецца памылка, перадрукуем газету ў трэці раз.

старонках газеты. Вельмі часта бывае так, што менш важны матэрыял падаецца на відным месцы, у той час, як важныя артыкулы і заметкі змяшчаюцца або на чацвертай старонцы пасля ўсіх матэрыялаў, або пад такімі загалоўкамі, якія не прыцягваюць ўвагу чытача.

У сваё апраўданне работнікі чырвонаслабодскай газеты спасылаюцца на вельмі цяжкія ўмовы, у якія пастаўлены рэдакцыя і друкарня.

Праўда, умовы цяжкія.

ні такое, што пры ім увечары нельга не толькі апрацоўваць матэрыял, а навет адрозніць чорнае ад белага.

— Гэта камбінат так здзекуецца над намі,—прабуе жартаваць выконваючы абавязкі рэдактара тав. **Іллінчык.**

Але якія-ж тут жарты, калі матэрыял не здадзен у набор, калі рабочыя друкарні стаяць без работы!

І тав. Іллінчык звоніць па тэлефону —вядзе перагаворы з камбінатам. Часам рэдактару ўдаецца дасягнуць сваёй мэты—мінут па 10—20 пасвятлее ў

рэдакцыя. А больш за ўсё бывае так, што ніякія тэлефонныя званкі не дапамагаюць і супрацоўнікі рэдакцыі слепяць вочы, робяць у матэрыялах памылкі, а друкарня набірае якім папала шрыфтом.

Можна было-б выпускаць газету і пры звычайных газавых лямпах. Але на ўсю рэдакцыю і друкарню ёсць толькі тры невялічкія лямпы з пабітымі шкламі. А ў мясцовых кааперацыйных крамах вы ні за якія грошы не знойдзеце ні лямпы, ні лямпавага шкла. Але каб дзе і знайшла рэдакцыя лямпу, дык газы не дастане ўжо напэўна.

Памылак у чырвонаслабодскай газеце безліч. Бываюць выпадкі, калі газету прыходзіцца па некалькі раз перадрукоўваць.

Так, нумар за 5 снежня рэдакцыя вымушана была друкаваць тры разы. Першы раз газета выйшла з машыны з грубай палітычнай памылкай у загалоўку паведамлення аб нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак СССР з членамі ЦК ВКП(б) і ўрада. Другі раз у артыкуле рэдактара перабылталі цытату з прамовы тав. Сталіна, перабылталы абзацы ў паведамленні аб нарадзе камбайнераў... Не заўважылі пры першым друкаванні, што ў пастанове РК КП(б)Б прапушчаны словы, а ў заметцы «Калі мне выдадуць грошы?» надрукавалі былі замест слова «курсы»— «куры».

У трэці раз прышлося нават варочаць газету з пошты, каб не дапусціць яе да чытача з памылкамі і бязглуздзіцай. У рэзультаце трохразовых перадрукоўвак нумар газеты выйшаў не 5-га, а 6-га снежня.

Але ці толькі дрэнныя ўмовы працы прычына таго, што чырвонаслабодскі «Калгаснік» часта выходзіць шэрым, няграматным, дрэнна афармленым?

Ні ў якім разе.

Прычына перш за ўсё заключаецца ў тым, што тав. Іллінчык, які выконвае абавязкі рэдактара, не адчувае адказнасці за газету. Адсюль і няўважлівая праўка матэрыялаў, адсюль і выпадкі, калі Іллінчык зусім не чытае здаваемы ў набор матэрыял, гаворачы:

— Прачытаю у першых водціск ах палос.

А потым водціскі прачытвае вельмі спешна, не ўдумваючыся ў тое, што чытае. Пры выпуску газеты ніхто з рэдакцыі не прысутнічае. У гэты час газета прадастаўлена двум малаграматным рабочым, якія амаль заўсёды упоцемку праўляць і друкуюць газету.

Для таго, каб палепшыць змест і афармленне газеты «Калгаснік», патрэбна перш за ўсё, каб тав. Іллінчык зразумеў, што рэдагаванне газеты—адказнейшы ўчастак партыйнай работы і што кожны рэдакцыйны работнік (не гаворачы ўжо аб рэдактару) павінен мець выключна высокую рэвалюцыйную пільнасць.

Трэба арганізаваць вучобу ў рэдакцыі. Работнікі рэдакцыі хочуць працаваць, любяць сваю справу, але амаль усе яны зусім маладыя, не знаёмыя з тэхнікай газетнай справы, не толькі не могуць добра апрацаваць матэрыял, але нават не ведаюць добра беларускай мовы.

Нарэшце, патрэбна неадкладна палепшыць умовы работы рэдакцыі і друкарні газеты. Ні ў адной раённай установе не ўбачыце такой цеснаты, такога дрэннага асвятлення і ацяплення, як у друкарні і рэдакцыі раённай газеты. У памяшканні друкарні, напрыклад, ад сырасці адваліліся абоі і праз згніўшыя сцены цягне холадам.

Няўжо вам, таварышы з чырвонаслабодскага РК КП(б)Б і РВК не сорамна, што рэдакцыя і друкарня вашай газеты знаходзіцца ў цесным, сырым і халодным памяшканні?

**С. СЯМАШКА.**

# ЗМЯНЯЕЦЦА ТВАР ГАЗЕТНАЙ ПАЛАСЫ

Месяцаў два назад рэдакцыя ельскай раённай газеты **«Большэвіцкі змагар»** пачала работу па пашырэнню тэматыкі газеты. Трэба сказаць, што на сёнешні дзень рэдакцыя ўжо дабілася некаторых поспехаў.

Раскажам аб аддзелах, новых рубрыках, што з'явіліся ў «Большэвіцкім змагары».

Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў газеце рэгулярна друкуюцца аддзелы саюзнай і замежнай інфармацыі. Рэдакцыя практыкуе перыядычна падачу саюзнай інфармацыі ў выглядзе адпабедных фотаздымкаў з пашыранымі тлумачэннямі іх. З апошніх нумароў рэгулярна друкуюцца невялічкія артыкульчыкі «У дапамогу чытачу» па пытаннях міжнароднай палітыкі, аб асобных капіталістычных краінах і інш. Гэтыя матэрыялы шмат дапамагаюць чытачам ельскай газеты разбірацца ў міжнародных падзеях, у кароткіх тасаўскіх тэлеграмах. Праз два-тры нумары ў газеце з'яўляецца невялікі агляд падзей за мяжой за пяцідзеўку, дэкаду, артыкулы аб Польшчы, Заходняй Беларусі (назавем некаторыя з іх: «Пад ярмом польскага фашызма», «Італія і Ліга нацый», «Катастрафічнае становішча сялянства ў Польшчы» і т. д.).

Крыніцамі гэтых матэрыялаў служаць бюлетэні БЕЛТА, «Крестьянская газета», «За коллективизацию».

Гаворачы аб гэтым, трэба падкрэсліць, што рэдакцыя зрабіла толькі першыя крокі да ўзорнай пастаноўкі саюзнай і замежнай інфармацыі. Ёсць асобныя зрывы, якія ў далейшым трэба ліквідаваць. Не заўсёды тасаўскія тэлеграмы даюцца ў адпаведнай паслядоўнасці. Такія факты затрудняюць чытачам сачыць за асобнымі падзеямі, за развіццём падзей.

Яшчэ мала думаюць у рэдакцыі над падборам інфармацыі. Адсюль бываюць выпадкі, што важныя падзеі за мяжой не знаходзяць адлюстравання ў «Большэвіцкім змагары». Укажам хоць-бы на тое, што ў ельскай газеце не было нічога надрукавана пра харчовыя затрудненні ў Германіі. Не трэба даводзіць палітычнае значэнне інфармацыі аб гэтых падзеях наогул, і ў прыватнасці для газеты ельскага раёна, у якім ёсць калгаснікі-немцы.

Цяпер рэдакцыя прыняла меры к таму, каб узняць якасць саюзнай і замежнай інфармацыі.

Заслугоўваюць увагі таксама і другія новыя аддзелы ў ельскай газеце. Перыядычна ў газеце друкуюцца заметкі пад рубрыкай «Культура калгаснай вёскі». У гэтым аддзеле рэдакцыя друкуе невялікія заметкі пра культурнае будаўніцтва ў калгасах (школы, клубы, яслі, лячэбніцы), паказвае рост чытаемасці газет, літаратуры.

Уведзен аддзельчык навін раёна. Для лепшага ўяўлення аб тэматыцы гэтага аддзела ўкажам на асобныя заметкі з яго. У адным з нумароў знаходзім напрыклад, такія паведамленні: лепшаму ўдарніку калгаса імя XVII партз'езда тав. Захаранка Мацвею споўнілася 60 год; аб тым, як праходзяць чыткі газет у калгасе «Прагрэс»; аб працы дзіцячых ясляў у калгасе імя Дзяржынскага; аб адбыўшайся аблаве на ваўкоў. Безумоўна, усё гэта — важныя паведамленні і яны з цікавасцю прачытваюцца калгаснікамі.

Паступова ў газеце набываюць права грамадзянства заметкі «На тэму дня». Апошнія дзве заметкі «На тэму дня» прысвечаны: першая — грамадскаму харчаванню, другая — гандлю газай і цукрам.

Час-ад-часу сустракаем у «Большэвіцкім змагары» і «маленькі фельетон». Праўда, часта «маленькі фельетон» ператвараецца ў вялікі, але ў гэтым сказваецца толькі тое, што таварышам трэба яшчэ многа і настойліва працаваць над удасканаленнем свайго пяра, над майстэрствам пісаць вострыя, вытрыманыя і разам з тым сапраўды маленькія фельетоны.

Трэба адзначыць таксама, як станоўчы факт, з'яўленне ў газеце вершаў вядомых беларускіх і рускіх паэтаў. Рэдакцыя ўмела падбірае іх. Напрыклад, побач з паведамленнем пра сустрэчу тав. **Сталіна** з сваёй маткай надрукован добры верш паэта Н. Васільева «Мать».

Нарэшце, укажам на аддзел «Навіны навукі і тэхнікі». Гэта вельмі карысны аддзел, які з'явіўся пару разоў і бясследна зпік са старопак «Бальшэвіцкага змагара». Безумоўна, рэдакцыя робіць няправільна, спыніўшы друкаванне цікавых і важных навін навукі і тэхнікі.

Такі кароткі агляд таго новага, што з'явілася ў апошнія месяцы на старонках «Бальшэвіцкага змагара». Безумоўна, у падачы гэтых новых аддзелаў яшчэ многа недасканалага. Рэдакцыя асвайвае новыя для сябе тэмы.

Разам з тым рэдакцыі «Бальшэвіцкага змагара» неабходна ўказаць на адзін сур'ёзнейшы недахоп яе работы па пашырэнню тэматыкі газеты. Мы маем на ўвазе значнае адставанне работы рэдакцыі па выхаванню рабсельлкораў, па вырошчванню з іх асяроддзя кваліфікаваных аўтараў. У рэзультаце артыкулы, нарысы, карэспандэнцыі на новыя тэмы, якія ўзнімае газета, пішуцца ў асноўным работнікамі рэдакцыі. Нават лепшыя селькоры «Бальшэвіцкага змагара» на сёння яшчэ не падняліся да ўзроўня аўтараў, здольных напісаць у газету добры нарыс, фельетон, глыбокую карэспандэнцыю.

Аб усім гэтым у мінулым нумары нашага журнала пісаў рэдактар «Бальшэвіцкага змагара» т. В. Сідарук. Ён пісаў і аб тых мерах, якія прымае рэдакцыя для ўзорнай пастаноўкі работы з рабселькорамі. Трэба толькі пажадаць рэдакцыі ельскай газеты поспеху ў гэтай справе.

**ЮР'ЕЎ.**

# ГАЗЕТА І ЖЫЦЦЕ

Багатае, шматграннае наша жыццё. Яно ідзе наперад гіганцкімі крокамі.

Як працаваць рэдактару, каб газета не толькі не адставала ад агульнага жыцця прадпрыемства, але і прадбачыла асобныя пытанні, своечасова ўзнімала іх, бачыла заўтрашні дзень? За што ўхапіцца, што раней асвятліць у газеце?

А ўхапіцца трэба за асноўнае, не разменьвацца на дробязі. Таму зразумела, што рэдактару трэба самаму ўрасці ў жыццё прадпрыемства, быць у цэхах штодзенна, абрасці кадрамі рабкораў, прыцягнуць лепшых людзей прадпрыемства—стаханаўцаў да ўдзелу ў газеце.

Патрэбен дакладны план работы. Без гэтага не можа быць баявой, аператыўнай, дзейснай, цікавай газеты.

У друкарні імя Сталіна (Менск) выдаецца свая шматтыражка **«Друкарская праўда».** Рэдагуе яе тав. **Фідлер.**

Перад намі апошні нумар гэтай газеты за 6 снежня. Перад тым, як вышаў гэты нумар, у друкарні адбыліся багатыя сваім зместам падзеі. Друкарня датэрмінова выканала свой промфінплан. Пастаўлена задача да канца года выпусціць дадаткова прадукцыі на 30 тысяч рублёў. Расце стаханаўскі рух на прадпрыемстве. Адміністрацыя занята стварэннем адпаведных умоў для шырэйшага разгортвання гэтага выдатнейшага руху. Растуць культурныя запатрабаванні рабочых. Рабочыя ўсё часцей наведваюць кіно, тэатр, клуб, бібліятэку.

Усё гэта павінна было знайсці яркае адлюстраванне на старонках «Друкарскай праўды». Перад двума апошнімі нумарамі гэтай газеты стаяла задача—талкова расказаць аб выкананні промфінплана, паказаць перадавікоў-стаханаўцаў, іх барацьбу за датэрміновае выкананне плана. Газета гэтага не зрабіла.

Уся грамадскасць БССР адзначала юбілей яўрэйскага пролетарскага пісьменніка **Ізі Харыка.** Гэты юбілей — выдатная падзея для друкарні. Тут многа яўрэйскіх рабочых, якія чытаюць творы Харыка. Тут друкуюцца яго творы.

Напярэдадні юбілея ў друкарні набіралася кніга вершаў Харыка.

У друкарні юбілей тав. Харыка не адзначылі, а газета не ўзняла гэтага пытання перад парткомам, заўкомам, не паявіла сябе, як арганізатар гэтай справы.

Стаханаўскі рух на прадпрыемстве ахапляе ўсё новыя і новыя групы рабочых. Адміністрацыя разам з рабочымі цэхаў праводзіць новыя рацыяналізатарскія мерапрыемствы. Некаторыя з іх

атрымалі сваё месца на старонках газеты, але далёка не ўсё.

За апошні час, якраз к моманту выхаду апошняга нумара шматтыражкі, у наборным цэху наборшчыкі і вярстальшчыкі пачалі працаваць на два талеры. Гэта дае добрыя паказальнікі. А «Друкарская праўда» маўчыць аб гэтым. Гэтыя важнейшыя мерапрыемствы, магчыма, знойдуць сваё асвятленне ў газеце. Рэдактар, трэба думаць, гэтымі днямі зойдзе і ў наборны цэх, даведаецца ад рабочых, ад насценнай газеты аб рабоце стаханаўцаў.

Але гэта ўжо не будзе мець такога значэння, бо рацыяналізатарская думка рабочых ідзе далей, — заўтра нахлынуць новыя пытанні, а газета будзе фіксаваць учарайшы дзень.

Фабрычна-заводская газета павінна жыць вытворчасцю, быць штурхачом у выкананні планаў. Газета павінна быць перадавіком, арганізатарам. Яна павінна узнімаць новыя вытворчыя, гаспадарчыя і культурныя пытанні перад арганізацыямі прадпрыемства, перад рабочымі. Яна павінна ўмець знаходзіць галоўнае. Без гэтых якасцей газета траціць сваю асноўную накіраванасць, траціць свой аўтарытэт у масах.

Газета абавязана шырока паказваць жыццё прадпрыемства, жыццё партыйнай і комсамольскай арганізацыі, быт і вучобу асобных рабочых і іх сем'яў, бо рабочы ў сваёй шматтыражцы, апрача агульнавытворчага матэрыялу, жадае атрымаць цікавую, жывую інфармацыю. Але ва многіх фабрычна-заводскіх газетах яе няма. Гэта гучыць, як анекдот, але факт, што рабочыя інфармацыю аб сваім прадпрыемстве, аб асобных рабочых, іх жыцці часцей атрымліваюць з цэнтральнай або раённай газеты, чым са сваёй шматтыражкі. Няма гэтай інфармацыі і ў «Друкарскай праўдзе».

Як быць? Як наладзіць інфармацыю і чаму яе няма ў «Друкарскай праўдзе»?

Паглядзім, як працуе рэдактар, чым запоўнен рабочы дзень тав. **Фідлера.**

**9 снежня.** На работу прышоў у 9 гадзін. Прадыктаваў машыністцы артыкул у нумар, які павінен выйсці з друку 13 снежня.

У 10 гадзін забег у наборны цэх за весткамі аб новых паказальніках у рабоце стаханаўцаў для перадачы аддзелу радыёвяшчання. (Тав. Фідлер сумяшчае працу рэдактара з працай карэспандэнта радыёвяшчання).

У 11 гадзін пайшоў у гарадскі аддзел радыёвяшчання.

У 12 гадзін рэдагаваў артыкул.

У 1 гадзіну дня выклікан у райком на нараду прапагандыстаў.

У 3 гадзіны дня, павінен паехаць у Дом друку да фабзавучнікаў.

Рабочы дзень рэдактара канчаецца, а работы шмат. Хвалюецца тав. Фідлер.

«Часу не хапае — кажа. — Мяне скарыстоўваюць на розных работах. Прыходзіцца сваю газету нават і набіраць самому. Нагружаюць рознай тэхнічнай работай. Сакратар парткома дае мне пісаць і рэдагаваць пратаколы парткома, мітынгаў, на гэта я трачу шмат часу. Я прапагандыст. Патрэбен час для падрыхтоўкі і выкладання ў партшколе. Гарадскі аддзел радыёвяшчання турбуе кожны дзень».

Значыць, на работу з рабкорамі, над матэрыялам, над арганізацыяй матэрыялаў — часу не застаецца. Няма калі бываць у цэхах, пагаварыць з рабочымі, з адміністрацыяй.

Цвёрдага распарадку дня ў рэдактара няма. Прысядзе, пачытае артыкульчык, выправіць яго наспех і бяжыць кудысьці.

Забяжыць у цэх, і зноў кудысьці спяшаецца. І так увесь дзень...

Як вынік гэтага, газета або застаецца ў баку ад жыцця прадпрыемства, або цягнецца ў хвасце за жыццём.

***

Рэдактару трэба стварыць умовы для працы.

Але сам рэдактар павінен быць арганізаваным, працаваць па плану, мець дакладны распарадак дня.

Калі гэта будзе, тады будзе час і на гутаркі з рабкорамі, з дырэкцыяй, з адміністрацыяй цэхаў, будзе час і на рэдагаванне матэрыялаў.

Калі рэдактар будзе рэдагаваць газету не «на-хаду», не пераключаючыся кожную мінуту на другую работу, тады будзе і сур'ёзны, удумлівы падыход да праўкі матэрыялаў, да складання плана нумара і т. д.

Тады і газета будзе цікавай, і рэдактар будзе задаволен сваёй працай, і галоўнае, — газета не будзе адставаць ад жыцця.

**Х. РАСКІНА.**

## АРТЫКУЛЫ

★ ★ ★

# Яшчэ аб інфармацыі ў раённай газеце

У апошні час у савецкай прэсе друкуецца шмат дакументальных матэрыялаў аб харчовых затрудненнях у фашысцкай Германіі.

Савецкі друк, які разлічан на шырокія масы працоўнага народу, абавязан асвятляць становішча працоўных капіталістычных краін, абавязан расказваць аб тых зменах, якія адбываюцца на смяротна хворым арганізме капіталізма.

Але папрабуйце знайсці хоць адно паведамленне аб харчовых затрудненнях у «Трэцяй імперыі» на старонках **нараўлянскай** газеты **«За калектывізацыю».** У гэтай газеце пра харчовыя затрудненні ў Германіі ўспамінаецца толькі ў адной невялікай заметцы ў святочным кастрычніцкім нумары.

Мы наўмысля з кіпы раённых газет для прыкладу ўзялі нараўлянскую газету. І вось чаму. У Нараўлянскім раёне жыве значная колькасць працоўных немцаў. Ёсць нават некалькі нацыянальных нямецкіх сельсоветаў. Амаль кожная нямецкая сям'я апрача іншых газет, выпісвае сваю раённую газету.

Не трэба мець сямі пядзей ва лбу, каб зразумець, што газетам тых раёнаў, дзе ёсць нямецкае насельніцтва асабліва неабходна даваць шырокую інфармацыю, артыкулы аб падзеях у фашысцкай Германіі.

Або возьмем такі факт. Вядома, з якім задаваленнем усе працоўныя нашай краіны даведаліся з газет пра сусветны рэкорд высотнага палёту, пастаўлены лётчыкам т. **Кокінакі.** А вось у нараўлянскай газеце пра гэта выдатнейшае дасягненне савецкай авіяцыі **не** надрукавана **ні слова.**

Як ацаніць паданыя факты з нараўлянскай газеты? Адказ можа быць толькі адзін: рэдакцыя дапусціла **палітычную памылку.** Разбярэмся ў тым, чаму памылкі падобнага роду дапускаюцца нараўлянскай газетай не так ужо рэдка.

Досыць азнаёміцца з тым, хто і як рыхтуе інфармацыю ў гэтай рэдакцыі, як многае стане ясным.

У нараўлянскай газеце «За калектывізацыю» інфармацыю рыхтуе адказны сакратар рэдакцыі т. **Робак Р.** Апрача сакратарства і інфармацыі т. Робак яшчэ апрацоўвае селькораўскі матэрыял, рыхтуе матэрыял на нямецкай і польскай мовах і карэктуе кожны нумар. Нават пры адсутнасці іншых прычын ёй пры такой нагрузцы вельмі цяжка справіцца з падачай саюзнай і замежнай інфармацыі.

— Мы рыхтуем інфармацыю вельмі проста, — гаворыць т. Робак: — атрымліваем з БЕЛТА тэлеграмы і па меры магчымасці друкуем іх.

З далейшай гутаркі высняецца, што т. Робак вельмі рэдка сочыць за падзеямі ў капіталістычных краінах. «Правду», «Известия» чытае вельмі рэдка, за апошнія месяцы не прачытала ні аднаго артыкула «Правды» і «Известий» па пытаннях замежнага жыцця. Ці патрэбна што-небудзь дадаць да гэтай характарыстыкі работніка, які вядзе ў газеце аддзел саюзнай і замежнай інфармацыі?

Ясна, што пры такой пастаноўцы справы няма чаго і чакаць належнай сістэматызацыі, паслядоўнасці ў падачы саюзнай і замежнай інфармацыі. Гэтыя-ж факты праліваюць святло і на прычыны таго, што нараўлянская газета часта абмінае важныя падзеі з жыцця Саюза і капіталістычных краін, пра якія яна **абавязана** расказваць сваім чытачам.

Цяпер з усяго сказанага можна зрабіць некаторыя вывады. Якавы галоўныя прычыны, якія абумоўліваюць усё яшчэ дрэнную пастаноўку аддзелаў інфармацыі ў нараўлянскай газеце?

У рэдакцыі нараўлянскай газеты яшчэ не разбіта шкодная думка, што саюзная і замежная інфармацыя ў раённай газеце з'яўляецца быццам-бы малаважнай, неабавязковай справай. Трэба зразумець, што друкаваць умела падабраную інфармацыю аб жыцці Саюза і капіталістычных краін раённая газета абавязана.

Зразумела, што раённая газета пры сваім невялікім памеры не можа аддаваць саюзнай і замежнай інфармацыі столькі месца, колькі ёй аддаюць цэнтральныя газеты. Але гэта ні ў якай меры не спрашчае, а наадварот — **ускладняе** справу падачы інфармацыі ў раённай газеце. Гутарка ідзе аб тым, каб на параўнаўча невялікай плошчы ў **кожным нумары раённая** газета паведамляла сваім чытачам пра **ўсе важнейшыя** падзеі ў Саюзе і за мяжой. Газета, якая не паведамляе аб гэтых падзеях, не можа быць поўнацэннай газетай.

Для невялікага фармата раённай газеты лепш за ўсё падыходзіць падача інфармацыі аб падзеях у капіталістычных краінах у выглядзе невялікіх **аглядаў**, так, як пачынае практыкаваць «Бальшавіцкі змагар». Агляды павінны даваць чытачу яснае ўяўленне **аб падзеях** за поўны перыяд часу ў той ці іншай краіне. Але друкаванне аглядаў не выключае неабходнасць друкаваць і асобныя тэлеграмы — кароткія паведамленні пра асобныя падзеі.

Напрошваецца пытанне: дзе рэдакцыя можа дастаць міжнародныя агляды? Зразумела, не будзе нічога дрэннага, калі раённая газета перадрукуе добры агляд міжнародных падзей з цэнтральнай газеты, напрыклад, з «Крестьянской газеты», «За коллективизацию» і іншых. Апрача таго рэдакцыі раённых газет маюць у сваім распараджэнні агляды, што дасылаюцца БЕЛТА. Можна параіць таксама журнал **«За рубежом»** (які, на жаль, не выпісвае нараўлянская газета). У журнале «За рубежом» друкуецца многа яркага фактычнага матэрыялу з жыцця зарубежных краін. Асобныя гэтыя матэрыялы ў поўнай меры падойдуць да ўзроўню асноўнай масы чытачоў раённай газеты.

Калі мы тут раім усе гэтыя крыніцы замежнай інфармацыі, то гэта не азначае, што рэдакцыя раённай газеты павінна запаўняць перадрукамі палову нумара. Зусім не так. Гутарка ідзе аб тым, каб для кожнага нумара газеты ўмела падабраць матэрыял, каб ён не заняў у газеце залішне многа месца і разам з тым быў палітычна вытрыманым, яркім і надзейным. Вось чаму нельга рыхтаваць аддзел інфармацыі «рантоўна», а трэба часамі перагарнуць многа матэрыялаў, каб выбраць толькі адзін-два, але такія, якія цалкам адпавядаюць моманту.

У рэдакцыях часта задаюцца пытаннем: што рабіць з усялякімі афіцыйнымі важнымі матэрыяламі, калі ў газеце літаральна няма месца ўсе іх надрукаваць цалкам? Гутарка ідзе пра такія

матэрыялы, як пастановы ўрада аб узнагароджаннях, аб прысвойванні новых званняў і т. д. Але выхад і тут ёсць, і зусім просты: рэдакцыя можа коратка пераказаць сутнасць таго ці іншага дакументу.

На старонках большасці раённых газет адсутнічае такі від падачы інфармацыйнага матэрыялу, як **хроніка падзей.** Між тым у невялікім аддзельчыку хронікі падзей па Саюзу і за мяжой рэдакцыя мае магчымасць зусім коратка інфармаваць сваіх чытачоў аб апошніх падзеях.

Такавы некаторыя з спосабаў падачы інфармацыі на старонках раённай газеты. Поспех справы і тут, як і ўсюды, **вырашаюць людзі.** Весці ў газеце пытанні саюзнай і замежнай інфармацыі павінны **найбольш моцныя, кваліфікаваныя работнікі рэдакцыі.** Даручэнне гэтай важнейшай работы непадрыхтаваным таварышам можа разглядацца толькі як вынік палітычнай блізарукасці рэдактара газеты.

Работнік, які падрыхтоўвае інфармацыю для газеты, абавязан дасканала разбірацца ў падзеях як у Саюзе, так і за мяжой, абавязан чытаць адпаведную літаратуру, вывучаць геаграфію свету, вывучаць палітычнае і эканамічнае становішча асобных краін.

Лазар Майсеевіч **Кагановіч** у сваёй прамове на нарадзе рэдактароў транспартных газет*) асобна спыніўся на падачы ў газетах інфармацыі. Тав. Кагановіч падверг жорсткай крытыцы пагарджальныя адносіны асобных рэдактароў да падачы інфармацыі аб падзеях у Саюзе і за мяжой і патрабаваў асаблівай увагі падбору і апрацоўцы гэтага матэрыялу. Лазар Майсеевіч патрабаваў ад рэдактароў транспартных газет умення знаходзіць **галоўнае** з падзей у Саюзе і за мяжой для кожнага адрэзку часу і паведамляць гэта галоўнае чытачам.

Гэтыя ўказанні т. Кагановіча ў поўнай меры адносяцца і да рэдактароў і работнікаў нашых раённых газет.

---

*) Аб выступленні т. Л. М. **Кагановіча** на нарадзе рэдактароў транспартных газет чытай у № 20—21 журнала **«Большевистская печать».**

# Перапіска з селькорамі, як сродак іх выхавання

Сярод рознастайных форм работы рэдакцый раённых газет па выхаванню рабселькораў ёсць адна форма, на якую асобныя рэдакцыі часта не звяртаюць увагі. Гутарка ідзе пра перапіску рэдакцыі са сваімі рабселькорамі.

Нам давялося нядаўна азнаёміцца са станам перапіскі з селькорамі трох палескіх раённых газет — ельскай, хойніцкай і нараўлянскай. Рэзультаты— самыя нецяшальныя. Стан перапіскі з селькорамі гаворыць аб тым, што рэдактары гэтых газет не разумеюць той велізарнай ролі, якую можа і павінна адыграваць перапіска ў **справе вучобы і выхавання** рабселькораў, у справе палепшэння **якасці селькораўскай карэспандэнцыі.**

Перш за ўсё кідаецца ў вочы той факт, што перапіска з селькорамі ў гэтых трох газетах даручана найменш падрыхтаваным, а то і тэхнічным работнікам рэдакцыі.

У рэдакцыі ельскай газеты **«Бальшэвіцкі змагар»** пісьмы селькорам пасылае інструктар т. **Іўко.** Тав. Іўко нядаўна працуе ў рэдакцыі, вопыту газетнай работы амаль не мае. Да таго-ж ён палітычна і культурна слаба падрыхтаваны. Тав. Іўко самога трэба яшчэ многа вучыць (чаго, да рэчы, не робіць рэдактар газеты т. **Сідарук).** Можна сабе ўявіць як ён вучыць рабселькораў.

У хойніцкай газеце **«Ленінскі шлях»** перапіску з селькорамі вядзе таксама малападрыхтаваны т. **Бордак** і тэхсакратар рэдакцыі т. **Зарэцкая.**

Крыху іншае становішча ў рэдакцыі нараўлянскай газеты **«За калектывізацыю»** Тут сяды-тады напіша пісьмо селькору т. **Прусак** — рэдактар газеты і іншыя адказныя работнікі рэдакцыі. Але гэта, паўтараем, бывае рэдка. Асноўную масу пісем селькорам піша і пасылае машыністка рэдакцыі т. Газман.

Да гэтага трэба дадаць, што ні ў адной з памянёных газет рэдактар не чытае пісем, якія пасылаюцца селькорам, не цікавіцца зместам іх.

Што-ж уяўляюць сабою пісьмы, якія пасылаюць сваім селькорам ельская, хойніцкая і нараўлянская газеты? Ва ўсіх гэтых рэдакцыях убачыш прыблізна адзін і той-жа малюнак. Селькору пасылаецца пісьмо пераважна толькі ў тым выпадку, калі яго заметка не пашла ў газету. Па даўно заведзенаму шаблону работнік, якому даручана гэта справа, піша селькору аб тым, што сталася з яго заметкай: паслана на расследванне, забракавана і яшчэ карацей паведамляе аб прычынах таго, што заметка не надрукавана. Такія адказы на нязмешчаныя заметкі з'яўляюцца ў абследаваных намі газетах амаль адзіным відам іх перапіскі з селькорамі.

Хойніцкая рэдакцыя ўвяла ў гэту справу невялікую «рацыяналізацыю». Рэдакцыя надрукавала вялікую колькасць розных бланкаў для адказаў. Калі заметка забракавана, работнік рэдакцыі бярэ адзін бланк, калі накіравана на расследванне—другі і т. д. Работніку рэдакцыі астаецца толькі надпісаць на бланку прозвішча селькора і некалькі слоў, растлумачваючых, чаму заметка не папала ў газету.

І ў ельскай, і ў хойніцкай, і ў нараўлянскай газетах нам давялося наглядаць адно характэрнае з'явішча—зусім малую колькасць селькораўскіх пісем **асабістага характару,** пісем з просьбамі к рэдакцыі даць параду, растлумачыць якое-небудзь пытанне і т. д. Гэта і зразумела, бо рэдакцыі самі абюракратызавалі сваю перапіску з селькорамі, звёўшы яе да вузка тэхнічнай справы.

Апрача апісанага вышэй тыпу пісем асобныя рэдакцыі пасылаюць, — праўда, рэдка, — аднатыпныя пісьмы ўсім сваім селькорам. Назначэнне гэтых пісем,—іх у рэдакцыях называюць «таварыскімі пісьмамі», — заключаецца ў тым, каб вучыць селькораў, як і аб чым пісаць у газету на пэўным адрэзку часу. На гэтым відзе пісем трэба спыніцца падрабязней.

Перад намі экземпляр пісьма, разасланага рэдактарам нараўлянскай газеты напярэдадні кастрычніцкіх свят.

Лічым неабходным падаць гэта пісьмо цалкам. Вось яно:

«Паважаны таварыш селькор!

За апошні час мы зусім мала атрымоўваем ад вас матэрыялаў у нашу газету і пагэтаму рэдакцыя газеты «За калектывізацыю» просіць Вас, каб Вы больш актыўна пачалі ўдзельнічаць і памагаць нашай газеце.

На бліжэйшы час мы просім даць нам наступныя матэрыялы:

1) Аб ходзе копкі і здачы бульбы, як дадатныя так і адмоўныя бакі. 2) Аб падняцці зябі. 3) Падрыхтоўка да зімы, скančэнне будаўніцтва хлявоў, рамонт старых хлявоў, як праходзіць другі ўкос, сіласаванне. 4) Аб арганізацыі чырвонага эшалона рабочым Ленінграда і падрыхтоўцы к XVIII Кастрычніку, 5) Учот у калгасах і падрыхтоўка да размеркавання ўраджаю, 6) Культурна-масавая работа ў сельсовеце, калгасах, што адкрываецца новае ў сельсовеце, калгасе, як-та: лазні, хаты-чытальні, клубы і т. д. 7) Як сельсоветы выконваюць узятыя абавязацельствы ў конкурсе. 8) Як сельсоветы выконваюць наказ выбаршчыкаў, 9) Работа школ, 10) Партыйна-камсамольская работа і вучоба, 11) Выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

Просьба ў кожным матэрыяле канкрэтна ўказаць людзей, як добрых, так і дрэнных, лічбы і канкрэтныя факты. Просьба на кожным допісу падпісваць выразна сваё прозвішча.

Рэдакцыя газеты спадзяецца, што ў самы бліжэйшы час мы атрымаем ад Вас матэрыял.

З таварыскім прывітаннем.—

Адказны рэдактар «ЗК»

ПРУСАК».

Вось гэту ў поўным сэнсе класічную шпаргалку рэдактар газеты **«За калектывізацыю»** лічыць пісьмом, якое павінна вучыць і выхоўваць селькораў. Дарэмныя надзеі! Гэта шпаргалка нічому не навучыла селькораў.

На самой справе, у пісьме заключаецца адзінаццаць розных пытанняў, па якіх рэдакцыя просіць селькораў пісаць у газету. У пісьме ні словам не растлумачваецца, як селькор павінен арганізаваць патрэбны газеце матэрыял. У канцы пісьма рэдактар выцягнуў на свет даўнішнюю схематычную фор-

мулу: «У кожным матэрыяле канкрэтна ўказваць людзей, як добрых (!?—**Ю. Б.**), так і дрэнных (!? **Ю. Б.**), лічбы і канкрэтныя факты».

Што дае гэта «формула» селькору ў сэнсе яго вучобы? Нічога, апрача шкоды, бо яна не гаворыць аб глыбокім вывучэнні селькорам фактаў акружаючай яго рэчаіснасці, а штурхае на слізганне па паверхні гэтых фактаў.

Уявім сабе селькора, які атрымаў пісьмо за подпісам т. Прусака. Карыстаючыся паднесенай рэдактарам формулай, селькор ідзе, к прыкладу, у праўленне калгаса, запісвае там процант выканання плана тых ці іншых работ, запісвае два-тры прозвішчы «добрых» людзей (трэба разумець, відавочна, ударнікаў), два-тры прозвішчы «дрэнных» людзей (чытай, зрыўшчыкаў) і заметка гатова. Зразумела, заметка атрымаецца павярхоўная, схематычная, селькор не зможа даць глыбокі аналіз з'яў, пра якія піша.

А ў рэдакцыі будуць скардзіцца: «Пісем атрымліваем многа, але большасць з іх павярхоўныя, агульны матэрыял». У даным выпадку рэдакцыя будзе пажынаць тое, што пасеяла.

Нельга абмінуць добрага вопыту ў гэтай справе рэдакцыі хойніцкай газеты, дарэчы, цяпер забытага ёю-ж самой.

Вясной гэтага года рэдакцыя **«Ленінскага сцяга»** паслала сваім селькорам некалькі аднатыпных пісем. Гэтыя пісьмы былі зусім не падобны на шпаргалку, складзеную т. Прусаком. У пісьмах хойніцкай газеты гутарка ішла пра адно-два пытанні, падрабязна растлумачвалася селькорам, што ім трэба рабіць, як напісаць матэрыял па таму ці іншаму пытанню. Падаmo пачатак аднаго з такіх пісем хойніцкай рэдакцыі.

**«Селькор з калгаса імя Чарвякова т. Кірпічэнка праслаў нам такую заметку:**

**«Калгас імя Чарвякова сустрэў гатоўнасцю веснавую сяўбу. Гэта відаць з таго, як калгас пасеяў 10 гектараў лубіну і 5 гектараў ярыны. Дружна і смела выехалі ў поле, бо ўсё гатова».**

**Ці можна змясціць ў газету такую заметку? Ці прынясе яна карысць для справы? Ці вывучыў і ці глыбока ведае селькор факты, пра якія піша? Давайце разбяром гэту заметку...»**

Разгляду недахопаў адной заметкі селькора Кірпічэнка і прысвечана ўсё гэта досыць доўгае пісьмо. Рэдакцыя, аперуючы фактамі, давяла, што селькор неглыбока вывучыў ход сяўбы ў сваім калгасе, не выкрыў многіх недахопаў. Рэдакцыя тут-жа вучыць усіх сваіх селькораў, **як трэба пісаць** у раённую газету пра ход веснавой сяўбы: як селькор практычна павінен змагацца за поспех сяўбы ў сваім калгасе. Вось такое пісьмо прынесла селькорам, якія яго прачыталі, вялікую карысць, бо яно **ўзбагаціла іх новымі ведамі.**

Такім чынам мы разгледзелі стан перапіскі трох рэдакцый з рабселькорамі. Якая-ж павінна быць перапіска рэдакцыі раённай газеты з селькорамі? Пастараемся адказаць на гэта пытанне.

Перш за ўсё трэба вызначыць асноўную задачу перапіскі. Яна заключаецца, галоўным чынам, у тым, каб **вучыць селькора, павышаць яго палітычны і культурны ўзровень, выхоўваць з селькора кваліфікаванага аўтара.** Вось чаму нельга даручаць гэту адказнейшую работу людзям слаба падрыхтаваным у палітычных і культурных адносінах, людзям, якія не маюць вопыту газетнай работы. Пісаць пісьмы селькорам павінны толькі **найбольш моцныя супрацоўнікі** раённай газеты, прычым **кожнае** пісьмо, якое накіроўваецца з рэдакцыі селькору, **рэдактар павінен абавязкова прачытваць і падпісваць.** Такое рашэнне ўсесаюзнай нарады работнікаў рабсельскораўскага руху, якая адбылася вясною г. г. пры журнале «Рабоче-крестьянский корреспондент». Гэта ў вышэйшай ступені правільнае рашэнне павінна быць **непахісным законам** для кожнага рэдактара раённай газеты.

Асноўнай масай пісем, пасылаемых рэдакцыяй селькорам, павінны быць **індывідуальныя** пісьмы. Гэта значыць, што на кожную селькораўскую заметку, карэспандэнцыю, нарыс, верш і т. д., якія выклікаюць неабходнасць указаць селькору на іх недахопы, селькор павінен атрымаць падрабязнае талковае пісьмо.

Няправільна ўстаноўка асобных рэдакцый — пасылаць пісьмы селькорам толькі па поваду тых матэрыялаў, якія не ідуць у друк.

Уявім сабе такі выпадак. Селькор прыслаў матэрыял на вельмі важную,

актуальную тэму, але напісан матэрыял слаба. Работнік рэдакцыі выпраўляе яго літаратурна, і матэрыял друкуецца ў газеце. Чаму-ж не напісаць аўтару падрабязнае пісьмо і не растлумачыць яму, чаму ў яго матэрыяле рэдакцыяй зроблены папраўкі?

Зразумела, такое пісьмо будзе вельмі каштоўна для селькора, і ўжо наступны матэрыял атрымаецца ў яго напэўна лепш.

Так-жа сама неабходна адказваць на кожнае пісьмо, якое не можа быць надрукавана. У гэтым выпадку трэба без бюракратычнага халадку, падрабязна растлумачыць селькору, чаму яго заметка забракавана.

Цяпер возьмем такі выпадак. Селькор прыслаў у рэдакцыю заметку выкрываючага характару. Факты, апісаныя ў заметцы, патрабуюць неадкладнага надрукавання яе. Але селькор не ўсебакова апісаў справу, у заметцы ёсць няясныя месцы і ў такім выглядзе яе надрукаваць нельга. Заметка накіроўваецца на расследванне. У такіх выпадках рэдакцыі газет пасылаюць селькору адпаведны бланк. А не цяжка-ж напісаць селькору невялікае таварыскае пісьмо і падрабязней растлумачыць яму, чаму яго заметка не надрукавана ў газеце, а паслана на расследванне.

Вось такія пісьмы, якія вучаць селькора на канкрэтных прыкладах яго-ж матэрыялаў, і павінны быць асноўным відам перапіскі рэдакцыі раённай газеты з селькорамі.

Безумоўна, такая пастаноўка перапіскі з селькорамі патрабуе ад рэдакцый затраты значнага часу—без гэтага абысціся нельга, але гэта праца ўжо на першых парах акупіць сябе з лішкам. Правільна пастаўленая перапіску з аўтарамі, узняўшы яе якасць, рэдакцыі змогуць шмат хутчэй рушыць наперад справу вырошчвання з асяродзя рабселькораў новых кадраў кваліфікаваных аўтараў, якія так патрэбны раённым газетам.

**Юр. БЕЛЬКО.**



## Крытычныя заметкі

# ЗА ГРАМАТНАСЦЬ І ПРАСТАТУ

— Няхай д'якан разбярэ, хто тут жывы, хто тут мёртвы: ён у семінарыі вучыўся, а я гэтых самых спраў... хоць забі, нічога не разумею...

Так рабіў чэхаўскі дзячок, калі не мог разабрацца ў «складаных» справах: каго занесці «за упокой», каго «о здравии».

Рэдактар крычаўскай раённай газеты **«Соцыялістычны шлях»** тав. **Н. Пыко** пашоў куды далей за гэтага дзячка. Ён, не разбіраючыся, бухнуў «о здравии»:

> **«Вучань 10 класа тав. Гезенцвей зрабіў кароткі даклад аб творчасці папулярнага совецкага пісьменніка Леаніда Андрэева»—**

чытаем мы ў газеце ад 25 лістапада.

Адным махам тав. Пыко робіць буржуазнага пісьменніка совецкім, знімае з яго контррэволюцыйныя грахі (Андрэеў —ярый вораг рэволюцыі, памёр у Фінляндыі ў 1919 годзе).

Але ці толькі ў гэтым бязграматнасць крычаўскай газеты? Прагледзіце газету і пераканаецеся, што яна бюракратычнай мовай гаворыць са сваімі чытачамі.

Газета час-ад-часу піша пра школу:

> **«На 1, 2, 3 і 4 класы нашай школы ніхто не зварачае ніякай увагі. Маючыйся ў школе вартаўнік, ён-жа прыбіральшчык, Кустрэй часта «забывае» вытапіць памяшканне, у якім займаюцца гэтыя класы» (гл. газету за 3 снежня).**

Бачыце, у памяшканні займаюцца не вучні, а класы, апальваюцца не печы, а памяшканне. І хто-ж у гэтым вінен? Вінен вартаўнік Кустрэй. З якога гэта часу ў Крычаўшчыне адказваюць за школу не дырэктары, а вартаўнікі? Няўжо не знайшлося ў рэдакцыі людзей, каб граматна апрацаваць заметку?

Гэта не выпадковы прыклад дрэннай апрацоўкі матэрыялаў. Возьмем заметку ў нумары за 2 снежня **«Вікавата праўленне»**. Тут расказваецца, што калгаснік **Пятроў С.** украў 10 кгр. ільновалакна і 32 кгр. валакна нетрапанага, што:

> **«напрыклад, канюшыннае іржышча (?) ляжыць пад навесам, яго расцягваюць свінні, каровы і нячэсныя калгаснікі бяруць, а старшыня калгаса Ламінскі мер ніякіх не прымае».**

Загалоўкі ў заметках часта доўгія і пустыя: «Калгасы, якія не завяршылі ільноздачу і не прыступілі да здачы пянькі дзяржаве», — часам крыклівыя: «Ніякай літасці сабатажнікам», «Пакончыць з самацёкам» і т. д.

Вадзяністыя сказы, безліч непатрэбных слоў, лічбаў, назваў—вось стыль газеты.

Нават вучань пачатковых класаў ведае, што дзеепрыметнікі ўжываюцца толькі тады, калі яны набылі глыбокі соцыяльны сэнс, як азначэнні грамадска-палітычных з'яў, ва ўсіх іншых выпадках ужываюцца апісальныя звароты: замест «пішучы вучань» ужываецца — «вучань, які піша» і т. д. Але ў газеце «Соцыялістычны шлях» рэдка дзе знойдзеш сказ без слова «маючыйся», «харчуючыйся», «вяртаючыйся» і т. д.

Там, дзе можна пісаць проста, выразна, коратка, — расцягнутасць, блытаніна, мудрагельства, трасканіна.

Нельга працаваць у большэвіцкім друку метадамі чэхаўскіх д'ячкоў.

**С. ШУШКЕВІЧ.**

# ЗАГАЛОВАК

Наўрад ці патрэбна многа даказваць, якое значэнне мае загаловак у газетнай заметцы. Ад таго, наколькі загаловак будзе прыцягальным і палітычна правільным, завостраным, залежыць наколькі будзе прыцягнута ўвага чытача да заметкі і якія ён зробіць з яе вывады.

Загаловак у газеце павінен быць палітычна правільным, завостраным, партыйным. Ён павінен быць яркім, ударным і кароткім. Ён павінен не толькі інфармаваць, але і агітаваць.

У капыльскай раённай газеце **«Калгаснік Капыльшчыны»** захапіліся загалоўкам, дзе абавязкова ўпамінаецца прозвішча. І вось як выглядаюць гэтыя загалоўкі:

**«Шакун—драпежнік».**

**«Жылка арудуе».**

**«Карповіч абмервае спажыўца».**

**«Мароз безабразнічае».**

**«Плюта бяздзейнічае».**

**«Маліноўскі ігнаруе мабілізацыю сродкаў».**

Такіх прыкладаў можна прывесці многа. Работнікі капыльскай газеты не разумеюць, што канкрэтнасць тут вельмі адносная. Справа не толькі ў Шакуне, Жылцы, Карповічу, а ў грамадскім значэнні тых учынкаў, якія гэтыя асобы робяць. У прыведзеных загалоўках газета толькі інфармуе чытача, але палітычна не абагульняе заметкі.

Прыкладу капыльскай газеты следуюць у Гарадку. У кастрычніку «Звязда» ў аглядзе **«Камандаванне і траскатня»** ўказала гарадоцкай **«Калгаснай праўдзе»**, што ў яе матэрыялах, а таксама ў загалоўках пераважае тон загаду. Рэдакцыя рашыла, відаць, выправіць сваю памылку, але выпраўляе яе няўдала. Накожным кроку інфармацыйныя загалоўкі з прозвішчамі накшталт **«Купрэева аб ільне не думае»**, **«Алімпееў лён дзяржаве не здае, а п'янствуе»** і т. д. Гэта прыводзіць да пэўных казусаў.

У нумары ад 25 кастрычніка газета змясціла заметку пад загалоўкам:

**«Васільеў і Баюраў разбураюць калгас».**

Безумоўна, што апрача падкулачніка Васільева ў Гарадоцкім раёне ёсць нямала Васільевых — сумленных будаўнікоў калгаснага ладу. Уявіце сабе самаадчуванне кожнага з іх, калі яны прачыталі загаловак заметкі. Так яно і аказалася. 2 лістапада газета ўжо заклікала:

**«Бярыце прыклад ад тав. Васільева».**

Другі Васільеў, напэўна сумленны, знатны чалавек, але пакуль чытач прачытае заметку і ўспомніць, аб якім Васільеве ішла гутарка ў мінулы раз, давер'е яго да паслядоўнасці газеты будзе вельмі невялікім.

Даць да заметкі добры загаловак— рэч не лёгкая. Для гэтага трэба працаваць над матэрыялам, і іменна гэтага патрабуюць калгаснікі Капыльскага і Гарадоцкага раёнаў ад рэдакцый сваіх раённых газет

**М. РАБІНОВІЧ.**

# БРАКАРОБЫ

2 снежня выйшаў нумар газеты **«Калектывіст Расоншчыны»**, прысвечаны адкрыццю злёта стаханаўцаў лесу Расонскага, Асвейскага і Дрысенскага раёнаў. Здзіўляе выключная няграматнасць усіх матэрыялаў, змешчаных у гэтым нумары, пачынаючы ад перадавога артыкула, канчаючы абавязацельствамі спецыялістаў расонскага леспрамгаса.

Возьмем перадавы артыкул «За стаханаўскія метады лесазагатовак».

Што ні сказ, то бязглуздзіца, што ні радок, то памылка.

**«Зараз, як і ва ўсіх галінах прамысловасці нашага неаб'ятнага Савецкага Саюза, пад кіраўніцтвам нашай комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам правадыра народаў тав. Сталіна, які з'ўляецца натхніцелем вышэйшага этапа спаборніцтва — стаханаўскага руху — нашлі свой водгук і ў лясной прамысловасці».**

Што знайшло свой водгук? Што можа чытач зразумець з гэтага сказа?

**«Калі мы ў першыя дні за рэвалюцыйнае ўзняццё новага ўздыму вытворчасці працы — стаханаўскімі метадамі мелі адзінкі, то зараз па нашым участкам леспрамгаса мы ўжо налічваем дзесяткі».**

Адзінкі і дзесяткі каго? Удумайцеся ў гэты сказ, таварышы з расонскай рэдакцыі. Вы-ж самі не зразумееце зараз, што вы напісалі.

**«Шмат перашкаджае пытанню роста стаханаўскага руху, змена рабочых, праз два, тры дні, выдзеленых калгасамі. Сапраўдныя ўдарнікі-стаханаўцы не могуць вырастаць у дзень, два; авалодваць працэсамі работы, засвоіць вытворчасць, трэба толькі шляхам яго вывучэння, а падобная практыка работы калгасаў шкодзіць справе развіцця стаханаўскага руху ў лесе».**

Разабрацца, што тут да чаго, якая практыка работы шкодзіць развіццю стаханаўскага руху.

А як зразумець такі сказ:

**«Яны павялічылі сваю вытворчасць за лік уплатнення рабочага дня (лішняй хадзьбы, падрыхтоўкі месца работы, ухода за інструментам і яго ўтрыманнем)».**

Няўжо, тав. **Фарбман** (нам. рэдактара расонскай газеты) лішняя хадзьба — гэта ёсць ушчыльненне рабочага дня?

**«Пастаянны кадр, быўшы цвёрдазаданнік... Мароз Піліп», «налічыі», «асвешчаць», «пака», «знаем», «вытворчасць працы», «вытворчасць рабочага дня».** Гэта толькі невялікая частка той безлічы памылак, якая запаўняе ўвесь нумар расонскай газеты ад першага і да апошняга радка.

А гэта-ж нумар, прысвечаны стаханаўскаму руху і стаханаўцам! Тым больш абурае безадказнасць рэдакцыі расонскай газеты, якая выпускае ў свет агіднейшы брак, а не большэвіцкую газету

**А. ЦЫПІНА.**

# Аб „асаблівасцях свіней“ і „мясе... хваробы“

Артыкулы дактароў, аграномаў, зоаветпрацаўнікоў, настаўнікаў у раённай газеце вельмі добрая і неабходная справа. Але трэба, каб гэтыя артыкулы былі напісаны жывой, граматнай, зразумелай для чытача мовай.



Гэтага нельга сказаць пра артыкул ветурача **Палхоўскага** «Хваробы свіней фінозам і трыхінеллёзам», змешчаны ў нумары быхаўскай газеты **«Маяк комуны»** ад 22 лістапада. Выключная няграматнасць, вульгарызацыя замест папулярнай мовы прывялі ў радзе сказаў гэтага артыкула да прамой бязглуздзіцы.

У самым пачатку артыкула «Маяк комуны» запэўняе сваіх чытачоў што:

**«Вялікае значэнне мясной прамысловасці заключаецца ў... РАЗВІЦЦІ СІНАГАДОЎЛІ» (?!?).**

Не развіццё свінагадоўлі для далейшага росту мясной прамысловасці, а якраз наадварот — так сцвярджае аўтар артыкула пры маўклівай згодзе рэдактара газеты.

А для доказу гэтага аўтар піша далей:

**«Свіння — выгадная жывёла. Асаблівасці свіней заключаюцца ў тым, што яны здольны ў меншай колькасці кармоў, у параўнанні з другой жывёлай, накапліваць многа сала і мяса».**

Няўжо на самой справе свінні накапляюць сала і мяса ў кармах?

Прызнацца, гэтай «асаблівасці свіней» мы да гэтага часу не ведалі.

Не ведалі мы і таго, што хваробы свіней маюць... мяса. Мы даведаліся аб гэтым толькі з артыкула ў быхаўскай газеце, якая сцвярджае:

**«Гэтыя хваробы не вылечымы. Яны наносяць гаспадарцы вялікія эканамічныя ўбыткі і сваім мясам заражаюць людзей».**

Хопіць прыведзеных трох прыкладаў, каб давесці няграматнасць усяго артыкула.

Мы не збіраемся абвінавачваць у няграматнасці ветурача Палхоўскага. Магчыма, што яго артыкул выглядаў крыху інакш да таго, як прайшоў праз рукі рэдакцыйных работнікаў.

Магчыма і другое, што такім няграматным выйшаў артыкул з-пад пяра аўтара. Але і ў тым і ў другім выпадку ў з'яўленні артыкула на старонках газеты ў такім выглядзе вінавата рэдакцыя і ў першую чаргу адказны рэдактар **І. Рудзерман.**

# Абураючая гісторыя

Селькор т. **Мішур** з Глускага раёна прыслаў у рэдакцыю раённай газеты **«Сцяг калектывізацыі»** заметку. Тав. Мішур — дэлегат II усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў і III усебеларускага з'езда рабселькораў — пісаў у заметцы пра парушэнне сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі ў калгасах Жолвінецкага сельсовета, якое выражалася ў няправільнай ураўнілаўскай выдачы авансаў калгаснікам. Праўленне калгаса, напрыклад, устанавіла аднолькавы размер грашовых авансаў для выплаты калгаснікамі ўзносаў па падпісцы на дзяржаўныя пазыкі і для аплаты падпіскі на газеты. У рэзультаце авансы атрымлівалі людзі, якія не мелі на іх права, бо не працавалі ў калгасе і не мелі зробленых грошай. У ліку іх апынуўся нават былы ўраднік Царык Адам, які не мае ні аднаго працадня.

Ясна, што тут у наяўнасці грубейшае парушэнне сталінскага статута, грубейшае парушэнне важнейшага прынцыпу калгаснага ладу, які выражаецца ў размеркаванні даходаў па працаднях.

Аднак, заметка селькора Мішура надрукавана не была, не была нават расследавана, не гледзячы на яе выключную важнасць. Тав. Мішур атрымаў з рэдакцыі адказ за подпісам сакратара рэдакцыі **Ціцішына**. Абураючы гэты адказ мы падаем поўнасцю ў такім выглядзе, як ён ёсць:

**«Таварыш Мішур В.!**

**Заметка Ваша «Спыніць парушэнне рэвзаконнасці» атрымана, але трэба сказаць, што ў 16 пункце с.-г. устава не гаворыцца, каб авансіравалі калгаснікаў. Але нельга дапусціць і такое з'явішча, каб зрываць падпіску газет, як Вы робіце.**

**Пагэтаму трэба зразумець, што НАДА РАБІЦЬ ТАК, КАБ БЫЛО СЕНА ЦЭЛА І КОЗЫ СЫТЫ. (Падкрэслена намі — РЭД.).**

**Адказны сакратар Ціцішын.»**

**31-X-1935 г.**

Так бюракрат за рэдакцыйным сталом расправіўся з выключна важным сігналам селькора т. Мішура. Зразумела, т. Мішур не пакінуў гэту справу без выніку. Ён напісаў пра сутнасць сваёй заметкі і абураючы адказ глускай газеты ў ЦК КП(б)Б.

Але тут трэба спыніцца па другой, самай важнай акалічнасці гэтай гісторыі.

Чаму мог здарыцца гэты выпадак у рэдакцыі глускай газеты? Толькі таму, што перапіска з селькорамі ў глускай газеце даручана неправераным людзям, таму, што рэдактар не чытае, не кантралюе таго, што пішуць супрацоўнікі рэдакцыі селькорам. Вось чаму за ўсю гэту абураючую гісторыю з адказам т. Мішуру павінен панесці поўную адказнасць рэдактар газеты «Сцяг калектывізацыі» А. Левін.

# Жывуць яшчэ плагіятары

**(Пісьмо работніка раённай газеты)**

Нядаўна, праглядаючы раённыя газеты, я натрапіў на артыкул «Не рэагаванне, а бюракратычная адпіска», надрукаваны 17 лістапада **ў жыткавіцкай** раённай газеце **«Прымежны комунар».**

Загаловак артыкула выклікаў у мяне падазрэнне, бо ў нумары **«Чырвонай Лагойшчыны»** за 11 лістапада быў змешчан артыкул пад такім-жа загалоўкам.




Я адшукаў нумар «Чырвонай Лагойшчыны» і пачаў параўноўваць гэтыя два артыкулы. Аказалася, што ў абодвух газетах не толькі загаловак аднолькавы, але амаль і ўвесь тэкст артыкулаў.

Першы абзац артыкула «Чырвонай Лагойшчыны» напісан так:

> **«Кожная заметка, як змешчаная, так і пасланая на расследванне туды, дзе адбыўся той ці іншы факт, патрабуе канкрэтнага рэагавання».**

Гэты абзац даслоўна перапісан плагіятарам з «Прымежнага комунара». У наступным абзацы «Чырвоная Лагойшчына» піша:

> **«Аднак некаторыя кіраўнікі ўстаноў і калгасаў не ўсвядомілі гэта ці не хочуць усвядоміць».**

Тут плагіятар праявіў крыху і сваёй ініцыятывы: слова «ўсвядоміць» у «Прымежным комунары» заменена словам «зразумець».

Так абзац за абзацам перапісан увесь артыкул. Зменены толькі ў некалькіх мясцах канкрэтныя факты і прозвішчы.

Якое-ж было маё здзіўленне, калі пад гэтым перапісаным з «Чырвонай Лагойшчыны» артыкулам я прачытаў прозвішча супрацоўніка жыткавіцкай газеты **Балдуева.** Балдуева я крыху ведаю. Ён у гэтым годзе скончыў Магілеўскі газетны тэхнікум. І гэты чалавек, два гады правучыўшыся ў тэхнікуме, навучыўся толькі перапісваць чужыя артыкулы.

**АБР. ПАЛОНСКІ.**

**г. Лепель,**
**рэдакцыя «Калгаснай праўды».**

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Перапісванне чужых матэрыялаў з выдачаю іх за свае ўласныя — так званы літаратурны плагіят — ёсць адзін з метадаў, уласцівых прадажнай буржуазнай прэсе. Плагіятарству не можа быць месца ў рабоце совецкіх газет. Вось чаму трэба рашучым чынам змагацца з усякімі, нават самымі дробнымі, праяўленнямі плагіяту ў нашым совецкім друку, рашуча ачышчаючы рэдакцыю газет ад плагіятараў.**

**У свой час аб плагіятарах з рэдакцыі «Прымежнага комунара» пісала «Звязда». Як відаць, сістэма работы жыткавіцкай газеты ніколькі не змянілася. Спадзяемся, што жыткавіцкі райком партыі, нарэшце, зоймецца як належыць становішчам спраў у рэдакцыі свайго друкаванага органа.**

# ДОБРАЕ ПАЧЫНАННЕ

Велізарнае значэнне фальклора — вуснай народнай творчасці — не раз падкрэслівалася нашым друкам, падкрэслівалася выдатнымі майстрамі мастацкага слова, у прыватнасці Аляксеем Максімавічам **Горкім.** Вялікі пролетарскі пісьменнік совецкай зямлі Горкі настойліва заклікае літаратараў вывучаць створаныя народам быліны, казкі, байкі, песні, частушкі, чэрпаць з невычарпальных крыніц народнай творчасці матэрыялы для сваёй работы.

У совецкай вёсцы ў паслярэволюцыйны перыяд створаны сотні і тысячы песень, частушак, казак, былін, адлюстроўваючых перабудову вёскі на калгасны лад, умацаванне магутнасці совецкай краіны, паляпшэнне жыцця працоўнага народу, станаўлення новых соцыялістычных адносін паміж людзьмі на вытворчасці, у быце.

Велізарнейшую ролю могуць адыграць у збіранні фальклора раённыя газеты і рабселькоры. Але, на жаль, яшчэ зусім нямногія рэдакцыі раённых газет разумеюць гэта. Народная песня, быліна, частушкі — яшчэ вельмі рэдкая з'ява на старонках нашых газет.

Вось чаму з асаблівым задаваленнем трэба вітаць пачын газеты **«Калгаснік Старобіншчыны»**, якая пачынае друкаваць фальклор на сваіх старонках. Перадрукоўваем поўнасцю частушкі, запісаныя селькорам **І. Скуценяй** у калгасе «Будаўнік», Сухамільскага сельсовета, Старобінскага раёна («Калгаснік Старобіншчыны», 8 снежня).

Мая мілая падруга,
Мы ударніцы з табой.
Мы запішамся ў селькоры
Дадзім подырам адбой.

***

У каня плячо разбіта,
Конюх марыць: шыта-крыта!
Але насценная газета
Не памілуе за гэта.

***

Сабраліся ўсе селькоры,
Пачаліся разгаворы:
Хто калі пра што пісаў,
Хто ў газетах што чытаў.

***

Ой, калісьці я жыла,
Слёзы пралівала,
Непісьменная была,
Долю праклінала.

***

А вы, хлопцы, пачакайце,
Зараз новыя права.
Выбіраю, памятайце,
Жаніхоў цяпер сама.

***

Весялей грымі, гармонік,
Каб усе пазналі,
Што шчаслівымі людзьмі
Мы ў калгасе сталі.

